КАМПЕТЭНТНА

# Вадзім ІОСУБ: «Можна чакаць зніжэння цэн на тавары ў некаторых магазінах…»

*Нацыянальны банк зацікавіўся камісіяй, якую гандлёвыя кропкі плацяць банкам за прадастаўленне растэрміноўкі пакупнікам.*

Многія людзі апошнім часам прызвычаіліся плаціць за пэўны тавар не адразу ўсю суму, а расцягваць выплаты на некалькі месяцаў альбо нават на два гады.

Гэта было выгадна ўсім. Пакупнік, напрыклад, можа прыйсці ў магазін бытавой тэхнікі толькі з пашпартам, набыць у беспрацэнтную растэрміноўку тэлевізар і нейкія не асабліва вялікія сумы выплачваць на працягу 2 гадоў. Альбо пагасіць доўг датэрмінова.

Магазін таксама мае выгаду, бо такім чынам у яго павялічваецца тавараабарот, а банкі, якія займаліся крэдытаваннем, за гэтыя паслугі атрымлівалі ад гандлёвых прадпрыемстваў узнагароджанне, якое даходзіла да 30 працэнтаў ад кошту тавару.

Але ў студзені Нацыянальны банк увёў максімальны памер ўзнагароджання, які магазіны могуць пералічыць банкам, – ён зніжаны да 4 працэнтаў. Наколькі вядома, да 8 лютага камерцыйным банкам рэкамендавана даць справаздачу з гэтай нагоды.

Варта сказаць, што многія банкі ўжо адрэагавалі на гэта. Напрыклад, «Прыёрбанк» паведаміў, што з 1 лютага змяніў умовы прадастаўлення растэрміноўкі па крэдытных картах. Зараз ён будзе спаганяць да 6 працэнтаў гадавых з фізічных асоб у выпадку афармлення растэрміноўкі больш як на 6 месяцаў.

«Беларусбанк» наогул адмовіўся ад прадукту «растэрміноўка без пераплаты», а ў «ВТБ-Банку» мне паведамілі, што ўмовы крэдытавання ў іх зусім не змяніліся.

– На рэкамендацыю Нацбанка банкі адрэагуюць стандартна – прымуць да выканання, – кажа старшы аналітык кампаніі «Альпары» **Вадзім ІОСУБ**. – У нас не прынята ігнараваць гэтыя самыя рэкамендацыі.

Але хачу адзначыць, што розныя банкі будуць прымаць розныя рашэнні па крэдытаванні пакупак. Нехта, магчыма, наогул адмовіцца ад карт растэрміноўкі, хтосьці будзе браць працэнты за паслугі, а некаторыя банкі і насамрэч не будуць змяняць умовы крэдытавання, калі да гэтага прэміі, якія банку плацілі гандлёвыя арганізацыі, былі не вельмі вялікія.

**– Чаму Нацбанк звярнуў увагу на гэтую тэму?**

– Тут ёсць два асноўныя моманты. Першы – пры беспрацэнтнай растэрміноўцы прадпрыемствы гандлю выплачвалі банкам даволі вялікія прэміі – аж да 30 працэнтаў ад кошту тавару. Гэта азначае, што дадатковыя выдаткі магазіны ўключалі ў цэны і тавары станавіліся значна даражэйшыя і для тых, хто купляў іх у растэрміноўку, і для тых, каму гэта не трэба. І вось гэтая на першы погляд зручная схема прывяла да падаражэння тавараў для ўсіх.

Другі момант, на які звярнуў увагу Нацыянальны банк, гэта сацыяльны аспект. Хутка будзе два гады, як увялі паказчык даўгавой нагрузкі. Калі чалавек звяртаецца ў банк за крэдытам, вывучаюцца яго даходы. Ён можа траціць на вяртанне крэдыту не больш за 40 працэнтаў ад свайго даходу.

А калі кліент карыстаецца растэрміноўкай, то можа шмат набраць тавараў, бо яго даходы ніхто асабліва не правярае. Набраў тавараў, а грошай не хапае разлічыцца. І тады да гэтага чалавека прыходзяць судовыя выканаўцы. Такія рэчы ў будучым могуць атрымаць масавы характар, і гэта стала б сацыяльнай праблемай. Таму Нацбанк і вырашыў не даводзіць справу да такой сітуацыі.

**– Што ў сувязі з гэтым новаўвядзеннем чакае звычайных пакупнікоў, якія прызвычаіліся купляць тавары ў растэрміноўку?**

– Думаю, будзе менш танных растэрміновак і менш растэрміновак без першапачатковага ўзносу.

Пры гэтым ёсць і станоўчы момант – можна чакаць зніжэння цэн на тавары ў тых магазінах, якія прэмію для банкаў уключалі ў кошт тавару. І ў гэтым выпадку выйграюць усе пакупнікі.

**Алесь СІВЫ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Павел Севярынец адказаў Зянону Пазьняку

*Старшыня КХП–БНФ рэзкімі словамі раскрытыкаваў планы беларускай апазіцыі па абранні адзінага кандыдата.*

*«Такія спектаклі ставяцца ўжо 20 гадоў, з таго часу, калі нямецкая разведка ў асобе Ганса-Георга Віка* (былы дырэктар Федэральнай разведвальнай службы і кіраўнік Кансультатыўнай назіральнай групы АБСЕ ў Мінску. – **Аўт.)** *і КДБ стварылі ў Беларусі сваю так званую «дэмакратычную апазіцыю».*

*У гэтых асоб, якія сабраліся на «выбары» і якія тлумачаць свае паводзіны «праймерыз», абсалютна няма сораму. У той час калі грамадства наконт так званых рэжымных «выбараў» ужо даўно разабралася»,* – заявіў **Зянон Пазьняк.**

Дасталася на арэхі і палітыку **Паўлу Севярынцу**, які таксама прэтэндуе на тое, каб стаць адзіным кандыдатам ад гэтай часткі дэмакратычных структур.

*«Тое, што не было для мяне нечаканасцю, але ўсё роўна непрыемна, пацвердзілася, – гэта ўдзел Паўла Севярынца ў гэтай кампаніі,* – працягнуў Зянон Станіслававіч. – *За апошнія месяц-паўтара Севярынец выгадна (і заслужана) выйшаў наверх у пратэстным палітычным змаганні супраць аншлюсу і за незалежнасць Беларусі.*

*Замест таго каб замацаваць пазіцыі і смела весці наступальную палітыку на іншым узроўні, ён ізноў уваліўся туды, адкуль выйшаў, – у гнілую лахань «вікаўскай апазіцыі», якая падтрымлівае рэжымныя «выбары» і ўвекавечвае рэжым Лукашэнкі.*

*На гэтым – багна. Фініта. Будзе шмат кандыдатаў ад «апазіцыі». І гэта пры тым, што ніводнай асобы, якая магла б стаць альтэрнатывай рэжыму і «адзіным кандыдатам», у гэтай багне няма».*

«Народная Воля» пацікавілася, як **Павел СЕВЯРЫНЕЦ** адрэагаваў на крытыку вядомага беларускага палітыка, які ўжо доўгі час знаходзіцца ў эміграцыі.

– Па-першае, я з вялікай павагай стаўлюся да самога Зянона Пазьняка, яго ролі ў здабыцці незалежнасці і яго слоў, якімі б яны ні былі, – *кажа сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».* – Мне падаецца, што ў гэтай сітуацыі ён проста адрэагаваў на абвяшчэнне пра народнае галасаванне за адзінага.

Але на той час яшчэ не было тлумачэння маёй пазіцыі. А мая пазіцыя такая: мы ні ў якім разе не будзем падтанцоўваць уладам. У маіх планах – заклікі да яднання і змагання, пратэсты супраць фальсіфікацый падчас выбараў і ламанне гэтай сістэмы фальсіфікацый.

Гэта і ёсць сутнасць той кампаніі, якую я прапаноўваю. Гэта і ёсць тое змаганне, якое, на мой погляд, зараз патрэбна ўсёй Беларусі. Калі з дапамогай фальсіфікацый людзям не даюць свабодна выказацца падчас выбараў, то з гэтым трэба нешта рабіць, і я буду ў гэтым накірунку праводзіць актыўную кампанію.

Пытанне ў іншым: наколькі адгукнецца на мой заклік беларускі народ? Але ў нас будзе два з паловай месяцы, каб ездзіць па Беларусі, сустракацца з людзьмі і тлумачыць нашу пазіцыю. Думаю, што тут Зянон Пазьняк, як чалавек стратэгіі, убачыць разумнае зерне.

**– Але Зянон Станіслававіч не бачыць ніводнай асобы, *«якая магла б стаць альтэрнатывай рэжыму і «адзіным кандыдатам»…***

– Справа не ў асобе. «Адзіны» – гэта не адзін. «Адзіны» – гэта дух адзінства. Гаворка ідзе пра еднасць, а таму зараз мы кажам пра супольную стратэгію і супольнае правядзенне кампаніі.

Сёння трэба пераключыцца са змагання ўнутры на змаганне з уладай. Таму і вырашылі, што не варта высвятляць свае пазіцыі па байкоце альбо ўдзеле ў выбарах, а замест гэтага лепш распрацаваць і пагадзіцца на стратэгію, якая сапраўды ламае ўладны сцэнарый. Мой падыход такі.

**– Як вы ацэньваеце свае шанцы на абранне адзіным?**

– На народным галасаванні шанцы ў мяне добрыя. Гэта паказваюць апытанні і настроі людзей. Але думаю, што гэта звязана не з маёй асобай, бо ёсць нашмат лепшыя ў іміджавым сэнсе альтэрнатыўныя кандыдаты.

Гаворка ідзе не пра тое, што я добры ці прыгожы, а пра тое, што я збіраюся кінуць выклік усёй сістэме фальсіфікацый падчас выбараў. І збіраюся ўсімі сродкамі змагацца супраць гэтага. Таму многія людзі падтрымліваюць мяне.

**– Многія крытыкуюць працэдуру абрання адзінага кандыдата ад апазіцыі…**

– Мы пайшлі на гэту працэдуру, бо было патрэбна, каб яе падтрымала большасць партый. І ў пэўным сэнсе ахвяравалі пэўнымі выгодамі для сябе. Адзінства гэтага патрабуе, часам даводзіцца наступаць на горла ўласнай песні.

Але партыйцы – гэта таксама людзі. Іх настрой, наколькі я ведаю, таксама за змаганне, таму што яны ўжо паспрабавалі ўсё.

Акрамя таго, за 25 гадоў, я лічу, ніводнага сапраўды народнага галасання ў краіне не было. А зараз абсалютна любы грамадзянін Беларусі можа паўдзельнічаць у нашай кампаніі...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЭКОНОМИКА

# Реконструкция автодороги М7 начнется летом…

Реконструкция автодороги М7 Минск–Вильнюс должна начаться летом. Об этом сказал министр транспорта и коммуникаций **Алексей Авраменко**.

По его словам, запланирована полная модернизация дороги, поэтому водителей ожидают некоторые неудобства. «Транзитный грузовой транспорт планируем вывести на объездные дороги, предложим несколько маршрутов. Легковому транспорту тоже будем предлагать маршруты объезда, но и по М7 они смогут проехать, дорога будет перекрываться частями».

Что касается модернизации одной из крупнейших трасс страны – «олимпийки» (дороги М1/Е30), то в этом году будет готовиться технико-экономическое обоснование. Продолжится работа с Азиатским банком инфраструктурных инвестиций. «Они высказали заинтересованность принять участие в реализации этого проекта. Сейчас идет разработка концепции, – отметил министр. – В идеале мы хотим сделать эту дорогу без ограничений: убрать все пересечения в одном уровне, пешеходные переходы. Ремонт покрытия планируется выполнять поэтапно, для этого важно сейчас определить первоочередные участки. В целом наша задача на 2020 год – сделать технико-экономическое обоснование и прийти к пониманию с банком. Работы начнутся не ранее 2021 года».

*(БЕЛТА.)*

ІНІЦЫЯТЫВА

# Бізнес-інкубатар за ўласныя грошы

Першы бізнес-інкубатар у Гродне адкрыў за свае грошы прыватны прадпрымальнік **Алег Шкулепа**. Яго мэты і задачы амбіцыйныя: падтрымка новых праектаў прадпрымальніцтва, пачынаючы ад ідэі і да моманту рэалізацыі і манетызацыі.

Гродзенец Алег Шкулепа на працягу 18 гадоў займаецца прыватным бізнесам. Прычым у свой час ён скончыў ваеннае вучылішча, даслужыўся да старэйшага лейтэнанта і зразумеў, што войска не яго стыхія.

Ён стварыў ужо мноства праектаў, некаторыя рэалізаваў сам, а некаторыя перадаў сваім партнёрам.

– *Досвед за гады назапасіўся вялікі, і я зразумеў, што хачу дзяліцца ім з іншымі людзьмі*, – прызнаецца Алег Уладзіміравіч. – *Мне насамрэч цікава ствараць новыя праекты. Я за сваё жыццё працаваў і ў сферы перавозак, і ў рознічным і аптовым гандлі, таксама займаўся экспартам і імпартам, запускаў IT-праекты. Я па натуры прадпрымальнік.*

Напачатку Шкулепа азнаёміўся з магчымасцямі, якія існуюць у Гродне для падтрымкі прадпрымальніцтва. Аказалася, што ў Беларусі ўжо дзейнічаюць 26 бізнес-інкубатараў, а ў Гродне – ні аднаго. Ён вывучыў досвед некаторых з іх і прыйшоў да высновы, што работу ў сваім бізнес-інкубатары наладзіць па-іншаму.

– *Дзейнасць некаторых інкубаратаў абмяжоўваецца толькі тым, што прадпрымальнікам прадастаўляюць льготную арэнду альбо прапаноўваюць бясплатныя кансультацыі,* – распавядае Шкулепа. – *Я вырашыў, што буду дапамагаць развіваць бізнес-праект ад самага пачатку і даводзіць яго да практычнай рэалізацыі.*

Яго ідэю падтрымала кіраўніцтва Гродзенскага аддзялення «Прыёрбанка», паколькі ў іх існуюць праграмы дапамогі развіццю малога і сярэдняга бізнесу, і на льготных умовах выдзеліла памяшканні для арэнды.

Напачатку плануецца прапаноўваць дзеючым альбо пачынаючым прадпрымальнікам абмяркоўваць бізнес-праекты разам, запрашаючы больш дасведчаных топ-менеджараў і прадпрымальнікаў.

Было б дзіўным, калі б паспяховы бізнесмен укладваў свае сродкі толькі дзеля таго, каб патраціць іх. І Шкулепа перакананы, што кожная арганізацыя, якая займаецца бізнесам, павінна зарабляць, інакш у яе існаванні папросту няма сэнсу. І ў яго ёсць планы, на чым будзе зарабляць бізнес-інкубатар. Праўда, адразу зазначае, што інкубатар не будзе інвеставаць у праекты сваіх рэзідэнтаў.

Гаворачы аб магчымасцях займацца бізнесам, Алег Шкулепа перакананы, што яны ў Беларусі існуюць.

– *У заходніх краінах падаткі значна большыя, чым у Беларусі,* – кажа прадпрымальнік. – *Справа ў тым, што нашы прадпрымальнікі не вучацца, не павышаюць свой прафесійны ўзровень, а думаюць, што можна зарабіць лёгкія грошы.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ОФИЦИАЛЬНО

# Сотрудников «Великого камня» отправят на двухнедельный карантин

*С сохранением зарплаты. Коснется это тех, кто возвращается в Минск из Китая.*

В Беларуси организован и проводится комплекс санитарно-противоэпидемических мероприятий, направленных на предупреждение завоза и распространения инфекции, вызванной новым коронавирусом 2019-nCoV.

Как сообщает пресс-служба Минздрава, *«в пунктах пропуска на государственной границе проводится усиленный санитарно-карантинный контроль лиц, прибывающих на территорию страны, в том числе с использованием тепловизионного оборудования (в РУП «Национальный аэропорт Минск» обеспечено проведение двойного санитарно-карантинного контроля). Кроме того, в 23 пунктах пропуска через Государственную границу организован забор материала для лабораторного исследования граждан, прибывающих из Китайской Народной Республики».*

С целью профилактики и в соответствии с пожеланиями студентов, не выезжавших в КНР, принято решение о выделении дополнительных мест на базе оздоровительного комплекса БГУ «Бригантина» для учащихся, которые прибудут в Беларусь из тех областей Китая, которые не закрыты на карантин и где не зарегистрированы случаи заболевания, информирует Минздрав. Речь идет о дополнительных мерах для студентов, которые не были в контакте с больными и не посещали эпидемически неблагополучные районы.

*«Сейчас в оздоровительный центр направлены специалисты. Здесь все подготовлено для того, чтобы люди могли комфортно провести две недели,* – говорят в министерстве. – *Все медицинские сотрудники, которые будут работать в оздоровительном лагере, прошли дополнительную подготовку. В оздоровительном центре для прибывших из Китая студентов будет организована индивидуальная форма обучения в онлайн-режиме. Такие же меры эпидемической безопасности введены во всех областях страны, где обучаются студенты из КНР».*

По данным Министерства образования, сейчас в Беларуси обучаются около 5 тысяч студентов из Китая. На каникулы за пределы нашей страны выехали 920 человек.

Что касается сотрудников «Великого камня», то в Минске ждут возвращения около 80 человек – речь идет о тех работниках, которые также не были в карантинных зонах. Все они проведут двухнедельный оплачиваемый карантин в своих квартирах, так как в парке введены дополнительные меры безопасности для сотрудников. Администрация парка завершает закупку всех необходимых средств для санобработки территории. Со Смолевичской районной больницей установлен контакт, чтобы в порядке консалтинговой помощи лучше организовать все мероприятия по защите здоровья сотрудников. Кроме того, в первом жилом доме на территории парка уже введен в строй фельдшерский пункт. Сейчас там постоянно находится медицинский сотрудник.

**ВАЖНО!**

Всем гражданам, которые посещали Китай и другие страны, где распространен коронавирус, в случае появления симптомов, не исключающих инфекционное заболевание (повышение температуры тела, кашель, одышка и другие) в течение 14 дней после возвращения следует незамедлительно вызвать скорую медицинскую помощь.

Во время вызова необходимо сообщить о симптомах заболевания и дате прибытия из Китая.

**Галина РУТ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 ЛЮТАГА 2020 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Паспачуваць хачу галоўнаму ўрачу

Полацкая бальніца аб'явіла аб 110 вакансіях – ад санітарак і кухонных рабочых да рэаніматолагаў і хірургаў. Прапануюцца зарплаты ад 480 да 730 рублёў.
На пачатак года ў беларускіх бальніцах не хапала амаль трох тысяч медыкаў. І толькі ў адну Польшчу з Беларусі з'ехала больш за 230 спецыялістаў.

Ад згрызот галоўны ўрач
Спірт узяў з паліцы…
Стан такі, што хоць заплач,
У яго бальніцы.
Дактароў амаль няма,
Каб вылечваць хворых.
Колісь іх была гурма
Тут, на калідорах,
І мільгалі кожны міг
Белыя халаты,
Бо прываблівалі іх
Вартыя зарплаты.
Потым здарыўся застой,
Загніла краіна,
Стала ў нас казна пустой,
Як вясной адрына.
І занудзелі ўрачы,
Бо плацілі мала,
Часам толькі на харчы
Грошай ім хапала.
Хто налёг на выпівон –
Гіне ў алкаголі,
Хто падаўся за кардон –
Прагне лепшай долі.
Скажам, быў хірург, але
З'ехаў у замежжа,
Ён палякаў на стале
Па-майстэрску рэжа.
Стаматолаг – у Літве
Ці ў славакаў недзе.
Там працуе, там жыве
І дамоў не едзе.
Тэрапеўт за акіян
Здолеў перабрацца.
Будзе жыць, бадай, як пан,
Бо знайшлася праца.
Сам падумаў кагадзе:
«Клятву Гіпакрата
Можна й там выконваць, дзе
Годная зарплата…»
Пазбягалі хто куды
Нават і медсёстры…
Трэба выпіць ад нуды,
Боль суцішыць востры.
Шклянку ўзяў галоўны ўрач,
Спірт наліў да краю.
Хоць і выпіў, ды як бач –
Цяжкіх думак зграя.
Не хапае дактароў –
Уцякаюць валам…
Стан, на жаль, не будзь здароў
З іншым персаналам.
Хто лячыцца ляжа, той
З голаду апухне:
Збеглі гэтаю зімой
Павархі з кухні.
Дый няма каму як след
Перамыць пасуду.
А агульны туалет
Пачарнеў ад бруду:
Прыбіральшчыца адна
Засталася толькі.
Хоць стараецца яна,
Але мала толку.
А чаму ж такі расклад –
Вельмі нехарошы?
Бо ахвотнікаў няшмат
Запаўняць бальнічны штат
За такія грошы.
Працаваць амаль за нуль
Людзям нецікава,
Хоць і змешчана паўсюль
Не адна аб'ява.
«Я не лодар, не гультай,
Ды сабе не вораг», –
Кожны думае, бадай.
Хто ж лячыцьме хворых?
Хоць вачам сваім не вер –
Смех, а не бальніца.
Што ж рабіць яму цяпер?
Ну, хіба напіцца.
Спірт, канешне, не каньяк,
Дрэнна будзе ўранку,
Ды заліў сябе ў гарляк
І другую шклянку…

* * *

Што на гэта я скажу?
Будзе «фініш поўны»,
Калі з'едзе за мяжу
Сам урач галоўны.

### Як ні садзіся…

Матулі кожнае вядома:
Як ні садзіся каля дома,
Дзіця гуляе ўсё адно
Там, дзе яго ёй не відно.

### Пасля першай не закусвае

– А чаму пасля першай
Не закусвае рускі?
– Бо яму на другую
Не хапіла б закускі…

### Не бусел, а казёл

Кажуць, дзеці – нашы кветкі.
Хай шчаслівым будзе лёс!
…Адзінокіх маці дзеткі
Лічаць: іх казёл прынёс.

УПЕРШЫНЮ!

# Цалаваліся цэлую гадзіну…









**Такога, здаецца, у Мінску яшчэ не было. 9 лютага ў гандлёвым цэнтры Galleria Minsk адбыўся пацалункавы марафон. Цэлую гадзіну 23 пары абдымаліся, цалаваліся, выяўляючы самую розную фантазію. Хто пры гэтым пісаў вершы аб каханні, хто маляваў карціны, хто напяваў песні…**

**Таццяна і Дзмітрый Зелянковы, якія сталі пераможцамі, разам жывуць ужо 17 гадоў, у іх трое дзяцей. Цяпер пара зможа бясплатна адпачыць на востраве Джэрба.** *(Фота tut.by)*

ХОЧУ СКАЗАТЬ…

# Не пора ли вручить власть женщинам?

Этим суровым миром всегда правили мужчины. Они захватывали власть, ради удовлетворения своих амбиций развязывали войны, безжалостно клали на полях сражений тысячи молодых жизней, потом получали награды, а самым кровавым и жестоким «благодарные соотечественники» ставили памятники.

Женщинам доставался другой удел – разгребать пепелища, которые оставляли герои, думать о том, как одеть и прокормить детей, ценой неимоверных усилий налаживать быт и возрождать жизнь.

Посмотрите внимательно на тех, кто стоит у руля государств сейчас. Среди них немало плохо образованных, но с гипертрофированным самомнением мужчин. Можно много рассуждать про моральный аспект такой ситуации, но скажу о главном. Любящая жена, заботящаяся о репутации мужа-чиновника, всегда укажет ему на какие-то промахи, поможет избежать их в будущем. Не в пример подобострастно застывшим с блокнотами и ручками дамочкам, какие бы высокие посты они ни занимали. Поэтому и бывает так мучительно стыдно и за них, и за их мужчин-начальников.

На постсоветском пространстве дорвавшиеся до власти мужчины так вошли во вкус, что решили: народ без них пропадет. А чтобы народ лучше усвоил эту истину, создали такую репрессивную систему, которая и думать не позволяет о каких-то переменах в жизни своей страны. А когда подходит время проведения очередных выборов, повторяется до тошноты знакомая всем картина: на телеэкранах мелькает одна и та же кандидатура в сопровождении бесстыдной подтанцовки в лице двух-трех холуев-конкурентов.

До предстоящих президентских выборов в Беларуси остаются считанные месяцы. Я обращаюсь к вождям тех партий, которые уже многие годы участвуют в подтанцовке главному и несомненному победителю. Вам не надоело?

Перестаньте суетиться, отрывать людей на сбор ненужных подписей заведомо проигрышной кампании. Осознайте: вы не пользуетесь доверием у людей, не способны никого вести за собой.

Но вернемся к главному. Всё больше умных, образованных женщин приходит в политику. Самая яркая из них – Ангела Меркель, канцлер Германии. Сегодня уже никого не удивишь фразой «госпожа президент». Еще в 1999 году в Латвии президентом избрали Вайру Вике-Фрайбергу, правившую страной два президентских срока подряд. В 2009 году в соседней с нами Литве на высокий пост вступила Даля Грибаускайте. Конечно, в этих странах еще немало проблем, да разве кто-нибудь ожидает, что в одночасье можно создать где-нибудь рай? Но эти женщины многое сделали для своей родины, популярность их высока. И главное – они с уважением отнеслись к Конституции своей страны и не старались перекроить ее под собственные интересы.

Кстати, в Хорватии, а недавно и в Греции президентами народ тоже избрал женщин.

Разве у нас в стране нет умных, хорошо образованных женщин – успешных ученых, руководителей производств, бизнес-леди? Просто мы очень мало знаем о них. Так, может быть, давайте о них рассказывать, а потом выберем из их рядов единого достойного кандидата и всенародно поддержим? Что вы, читатели «Народной Воли», на этот счет думаете?

**Людмила ВОЛЬСКАЯ.**
*Минск.*

«НЕПРИЧЕСАННОЕ» ПИСЬМО

# Как будто я уже лишний…

Я решил включиться в разговор читателей, вызванный публикацией статьи Татьяны Мушинской «Как остаться в живых?» («НВ» за 27 декабря 2019 года). Слава Богу, в описываемых мною событиях трагедии не случилось, но это могло произойти, если бы я сам не стал активно бороться за свою жизнь и здоровье.

Я старый уже человек. В конце осени прошлого года стал заметно худеть, у меня пропал аппетит, а уже в декабре почувствовал страшную жажду и никак не мог напиться. На Новый год мне было так плохо, что, измерив уровень сахара в крови, вызвал карету скорой помощи, которая отвезла меня в полоцкую городскую больницу №1, называемую в народе железнодорожной. В приемном покое оформление документов заняло более часа, нужно было подписать какие-то глупые обязательства о соблюдении режима и что-то еще, хотя я находился чуть ли не в состоянии комы и под капельницей, которую мне поставили еще дома.

После этих формальностей меня доставили на четвертый этаж в терапевтическое отделение, и дежурная медсестра вместо отделения реанимации определила меня в палату №3, как потом выяснилось, самую плохую – на пять койко-мест с неходячим стариком, справляющим нужду под себя, и еще одним больным со страшным сухим кашлем. Ни со мной, ни с моей бедной женой, пытавшейся поискать другую палату, медсестра разговаривать не стала. Вела себя недружелюбно, можно сказать, даже враждебно, была какой-то озлобленной. Забинтовывая мне руку, поломала катетер, вставленный медбратом скорой помощи.

Принимавший меня в приемном покое дежурный врач прийти в палату не соизволила, а вечером мне принесли семь каких-то таблеток, которые медсестра бросила на тумбочку, а не на салфетку, которая лежала на ней, не сказав ничего о том, как их принимать. Естественно, я их глотать не стал. Примерно в 20.00 мне поставили еще раз капельницу, после которой я почувствовал себя немного лучше. Стал знакомиться с соседями по палате, а потом наступил час отдыха и сна. Перед этим ни чая, ни кефира мне не предложили.

Как ни старался уснуть, не смог. Форточек нет, окна заколочены наглухо. На кровати клеенка, поверх которой постелена все время сползающая простыня, одеяло изношенное, под ним холодно, подушка твердая и маленькая, входная дверь в палату находится напротив туалета, откуда исходит очень неприятный запах. На пять больных один стул.

2 января в больнице был выходной. Дежурный врач в палату №3 не приходил. Другая медсестра принесла снова жменю таблеток, опять же не объяснив, когда и как их принимать, бросила только, что все вопросы к лечащему врачу.

Наконец 3 января на обход пришла врач Смирнова. Суть ее визита: мол, вам назначено лечение, будьте добры глотайте таблетки и не задавайте ненужных вопросов. О том, что я имею право участвовать с ней в выборе методов оказания медпомощи, речи вообще не шло, информация о состоянии моего здоровья была скудной. Единственное, что я услышал от нее: уровень сахара в крови остается стабильно высоким. Правда, мне удалось настоять на том, что от ишемической болезни сердца таблетки буду принимать свои, те, которые мне назначила мой кардиолог, а не дежурный врач.

Так прошло еще двое суток, в течение которых не мог уснуть ни на минуту. У меня начали лопаться сосуды на лице, потом на ноге. Я забил тревогу, сказав врачу, что не спал три ночи и боюсь инсульта. На это она отреагировала спокойно, заявив, что предоставить мне отдельную палату не может, хотя я уже речи об этом не вел, считал, что придется терпеть. Только после того, как я сказал, что позвоню прокурору и если со мной что-то случится, то ему придется нести ответственность, меня опустили домой переночевать, чтобы я мог отоспаться.

Пребывание в больнице оставило глубокий след в моей душе. Никакого уважение ко мне, старому больному человеку, никакого сострадания, никакой попытки облегчить мою участь от медперсонала я не увидел и не почувствовал. Все какие-то хмурые, невеселые, несимпатичные. Постоянные окрики, понукания. Чувствуешь себя виноватым, что еще живешь, как будто болезнь не беда, а какое-то зло, чуть ли не преступление. Простому, бедному, беззащитному человеку от всего этого становится тошно и страшно.

По-настоящему квалифицированной медпомощи я так и не получил, но через две недели был выписан из больницы. Никто при этом не спросил, какое мое самочувствие, не поддержал психологически. Будто я уже лишний в обществе, ему не нужный, ибо от меня пользы нет, одни только издержки и убытки. Это, видимо, исходит от верхов власти, иначе медики вели бы себя более ответственно, а так они ничего и никого не боятся.

О бытовых условиях, где в общем туалете нет даже замка в двери, писать не буду. Это уже другая история. Вот такова реальность нашей повседневной жизни, которая в корне отличается от той, что показывают по телевизору.

**Э.И.ПЕЛУДЬ,**
**житель г.Полоцка.**

ПРАШУ СЛОВА!

# Рэабілітуйце абаронцаў Незалежнасці!

Добра было б, каб гэты мой ліст трапіў на вочы прэзідэнту Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку. Вось пішу, а слёзы душаць і капаюць на аркуш… Страшэнна хвалюе тое, што апошнім часам многія нашы вядомыя і нявінныя людзі трапляюць за краты. Суды караюць павальна тых, хто выступае супраць так званай «паглыбленай інтэграцыі» з Расіяй, хто актыўна бароніць суверэнітэт і незалежнасць нашай краіны.

Не паспеў Павел Севярынец адбыць пятнаццаць сутак арышту, як яму зноўку дабавілі яшчэ трыццаць, а ўздагонку і аштрафавалі амаль на адну тысячу рублёў. А не так даўно былі аштрафаваны Вашы, Аляксандр Рыгоравіч, былыя паплечнікі – дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання Пятро Садоўскі і Лявон Баршчэўскі. Яны атрымалі па 810 рублёў штрафу.

Але ж і Вы, як прэзідэнт, пастаянна выступаеце за тое, што наша краіна павінна быць самастойнай і незалежнай. А раз так, то я думаю, што Вы самі павінны крочыць у першых радах з такімі змагарамі за нашу незалежнасць, як Павел Севярынец, Уладзімір Арлоў і іншыя. А здымак гэтага шэсця, якое зробяць расійскія журналісты, імгненна ляжа на стол Уладзіміру Пуціну. І ў Вашых руках гэты здымак будзе вялікім козырам у перамовах з крамлёўцамі.

Уладзіміру Пуціну патрэбна прама сказаць: Рэспубліка Беларусь навечна будзе незалежнай, бо гэта воля беларускага народа!

Прашу Вас сваім указам прыпыніць пераследаванне нашых людзей і вярнуць ім грошы, якія яны выплацілі як штрафы. А нашым праваахоўным органам я прапаную заняцца непасрэдна сваімі службовымі абавязкамі.

Хачу Вас, Аляксандр Рыгоравіч, папярэдзіць, што эканамічныя санкцыі з боку расійскіх улад будуць яшчэ больш узмацняцца… Уладзіміра Пуціна да гэтага моцна падштурхоўваюць ягоныя багацеі-алігархі, якія спяць і бачаць, як захапіць у свае рукі нашы вядучыя прадпрыемствы. Асабліва іх цікавіць БелАЗ, металургічны завод у Жлобіне і калійныя камбінаты ў Салігорску. А як ім падабаюцца нашы малочныя заводы!

Карыстаючыся выпадкам, што пішу гэты ліст, хачу паведаміць навіну, якая павінна Вас, Аляксандр Рыгоравіч, узрадаваць і падбадзёрыць… Асабіста мяне яна вельмі ўзрадавала.

Мінулым летам вяртаўся я на сваім «Турысце», у якога, дарэчы, пяць перадач, з Казіміраўскага манастыра, які знаходзіцца за добрую сотню кіламетраў ад Бабруйска. Дарога ўсё лесам, і сустрэлася мне цыганка…

Навокал ні душы. Прыпыніўся, то яна і выманіла ў мяне апошнія пяць рублёў, але я пра тое не шкадую… Бо яна паведаміла мне, што кіраўніком нашай краіны Вы будзеце яшчэ не адзін год…

Пасада прэзідэнта не толькі пачэсная і адказная, але вельмі цяжкая і нават небяспечная. Як былы вайсковы разведчык, хачу параіць Вам узмацніць асабістую ахову ў замежных камандзіроўках.

Калі прылятаеце на перагаворы ў Маскву або Сочы, бярыце з сабой асабістага кухара і нашы беларускія харчы. Не дай Бог, але ўсё можа здарыцца. У цяперашні час давяраць нікому нельга!

Жадаю Вам моцнага здароўя! І падумайце, як рэабілітаваць тых, каго суды несправядліва пакаралі за абарону Незалежнасці роднай Беларусі.

**Павел САВОСЬКА,**
**былы старацель.**

ПОЗИЦИЯ

# Явная угроза миру

В условиях обострившейся агрессивности России, развязавшей войну в Украине и угрожающей независимости Беларуси, присоединяюсь к протесту разумных и смелых граждан страны против так называемой углубленной интеграции с Российской Федерацией.

Пропагандистская вакханалия лжи о роли России как защитника надуманного «русского мира» с возвратом в империю бывших освободившихся народов есть явная угроза миру.

Кремлем попраны все принятые договоренности, нормы и решения ООН.

Обладая большими ресурсами, громадными землями и ядерным оружием, Россия ошибочно считает себя малоуязвимой.

Я человек уже солидного возраста, и мне дороги многие места и города России, которые я посещал по работе во времена СССР. Но такой агрессивности, какую демонстрирует сейчас эта страна, тогда не было и в помине.

Пора очнуться большинству россиян и отбросить имперскую амбициозность кремлевских правителей как исключительно опасную для всех. Только мир и труд – основа успехов и процветания любой страны.

**В.И.ШУТОВ,**
**житель г.Фаниполя Дзержинского района.**

ЭКСПЕРИМЕНТ

# Шотландским бомжам будут наливать бесплатно. А нашим?

Как сообщила BBC, в шотландском городе Глазго запускается программа помощи бездомным лицам, страдающим алкоголизмом. Им будут наливать бесплатно спиртное – под надзором врачей.

Обоснование выдвигается простое: таким образом предполагается понизить количество преступлений, совершаемых бомжами-алкоголиками в поисках средств утоления «жажды». При этом шотландцы ссылаются на опыт Канады, где подобная служба функционирует уже несколько лет. А проблема, судя по всему, в Глазго стоит достаточно остро. По данным BBC, первые семь человек, которых будут обслуживать пилотный проект подобного рода, были соучастниками 1630 преступлений. Один из них 427 раз доставлялся в местную больницу в тяжелом состоянии.

Насколько вообще подобный подход может быть эффективен?

С этим вопросом мы обратились к профессору кафедры психиатрии и медицинской психологии Белорусского государственного медицинского университета, доктору медицинских наук Андрею Васильевичу Копытову:

*– Главный признак алкоголизма – утрата самоконтроля пьющего человека. Проблема в том, что, условно говоря, стоп-кран срывается, и человек, выпив немного, перестает далее контролировать процесс принятия алкоголя. В этом сущность алкоголизма. Так что не понятно, как шотландские врачи собираются следить за тем, будут или не будут пить пациенты после того, как уйдут из-под их контроля.*

**– Но они ссылаются при этом на опыт канадских специалистов.**

*– Я не знаком с деталями этого опыта, но у нас такой эксперимент обречен на неудачу. И я не вижу смысла в его проведении.*

Дополняя мысль профессора Копытова, можно сказать: вне зависимости от того, насколько эффективным средством борьбы с алкоголизмом среди лиц без определенного места жительства в Беларуси является подобная мера, бесплатная рюмка сегодня далеко не главное, в чем нуждаются белорусские бомжи. Гораздо важнее, чтобы государство обеспечило меры, препятствующие превращению обычного гражданина, пусть даже пьющего, в бездомного изгоя. А уж наливать ему или нет, пусть решают добросердечные сограждане.

**Алесь КЛЕВЧУК.**

СТАЛО ИЗВЕСТНО...

# Глава ХДС не будет претендовать на пост канцлера ФРГ



Аннегрет Крамп-Карренбауэр уйдет с поста председателя Христианско-демократического союза в ближайшие месяцы, после того как партия организует выборы кандидата на пост канцлера Германии. Крамп-Карренбауэр отказалась выдвигать свою кандидатуру на этот пост.

Об этом немецкие информагентства сообщили вчера со ссылкой на неназванных собеседников в партийных кругах, знакомых с положением дел.

(DW)

ВІЗІТ

# У Мінску чакаюць Іньяцыа Касіса

*12–13 лютага Беларусь наведае член Федэральнай рады, кіраўнік Федэральнага дэпартамента замежных спраў Швейцарскай Канфедэрацыі **Іньяцыа Касіс.** Гэта першы ў гісторыі двухбаковых адносін візіт у Беларусь афіцыйнага прадстаўніка Швейцарыі такога ўзроўню.*

Як паведамляе прэс-служба Міністэрства замежных спраў, запланаваны перамовы з міністрам замежных спраў Беларусі, удзел ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця Пасольства Швейцарыі ў Беларусі.

Іньяцыа Касіса будзе суправаджаць першы намеснік старшыні Нацыянальнага савета Федэральнага сходу Швейцарыі (ніжняй палаты парламента) Андрэас Эбі, які з 2017 года з'яўляецца сустаршынёй парламенцкай групы дружбы Швейцарыя–Беларусь.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ЧУЛІ?

# У Шчучыне ўвекавечаць памяць аб вялікім французе




У раённым горадзе Шчучын Гродзенскай вобласці плануюць паставіць помнік ваеннаму і дзяржаўнаму дзеячу, першаму прэзідэнту Пятай Французскай рэспублікі Шарлю дэ Голю. Аб гэтым падчас наведвання Гродзенскай вобласці паведаміў першы саветнік Пасольства Францыі ў Беларусі Аляксандр Пікe.

Падчас Першай сусветнай вайны Шарль дэ Голь, будучы ў званні афіцэра французскай арміі, трапіў у нямецкі палон і знаходзіўся ў лагеры для ваеннапалонных у Шчучыне. Аб гэтым ён пакінуў сведчанні ў сваіх успамінах. Дарэчы, месцазнаходжанне лагера ўстаноўлена. «Народная Воля» летась падрабязна расказвала пра гэтыя адкрыцці на тэрыторыі раённага цэнтра.

Сёлета спаўняецца 130 гадоў з дня нараджэння генерала і аднаго з самых вялікіх французаў усіх гадоў, як яго называюць на радзіме. З гэтай нагоды ў Шчучыне маюць намер здзейсніць сумесны беларуска-французскі праект – адчыніць інтэрактыўны музей, прысвечаны Шарлю дэ Голю.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

# Турецкий этюд украинского президента

*Владимир Зеленский делает попытки вывести Украину на качественно иной уровень в отношениях с соседними государствами. 27 января проведены переговоры с польским президентом Анджеем Дудой, на прошлой неделе Украину почтил своим визитом президент Турции Реджеп Эрдоган.*



Встреча Владимира Зеленского с турецким коллегой запомнится не только традиционным украинским приветствием «Слава Украине!», которое Эрдоган адресовал почетному караулу. Возможно, кому-то оно резануло слух, кого-то порадовало, но не это главное.

На сегодняшний день Турция не входит в узкий круг государств, способных влиять на общемировые процессы, но она давно претендует на статус регионального лидера: страна-член НАТО, обладает развитой военной инфраструктурой, военно-морским флотом и достаточно сильной армией, что позволяет ей активно принимать участие в военном конфликте на территории Сирии.

Турция в силу ее географического положения и нынешних возможностей очень важна для Украины, которая сильно ослаблена коррупцией внутри и российской экспансией извне. Из-за слабости государственных институтов Украина чаще всего выступает в роли страны-просителя, а не равноценного партнера.

На переговорах с Эрдоганом Зеленский попытался несколько подкорректировать сложившееся положение, но без определенных ляпов и конфузов не обошлось, хотя, надо отдать ему должное, он очень старался.

Отметим то, что можно записать в актив Украине.

**Во-первых,** на брифинге для журналистов президент Турции без двусмысленностей заявил: *«Еще раз хочу подчеркнуть, что Турция не поддерживает незаконную аннексию Крыма. Турция поддерживает территориальную целостность Украины включительно с Крымом».* Глава турецкого государства занимает достаточно жесткую позицию и не упускает возможности лишний раз о ней напомнить. Что существенно отличается от позиции лидеров ряда европейских государств, предпочитающих уклоняться от обсуждения «крымского вопроса», как это было, например, в декабре прошлого года на встрече в нормандском формате в Париже.

**Во-вторых,** эта встреча обозначила существование логически выверенной и хорошо структурированной общей повестки. Президенты двух стран в первую очередь обсудили самые болезненные для Украины темы: войну на Донбассе, аннексию Крыма, нарушение прав человека в Крыму, агрессивную политику Российской Федерации в регионе. Владимир Зеленский заявил: *«Во всех этих вопросах для нас чрезвычайно важна последовательная поддержка Турции, а также практические шаги Анкары в этом направлении. Украина рассчитывает на помощь Турции в процессе освобождения политических заключенных – граждан Украины, в том числе крымских татар, которые незаконно удерживаются в Крыму и на территории Российской Федерации».*

**В-третьих,** намечается активизация сотрудничества в торгово-экономической и инвестиционной сферах. Поставлена конкретная задача – увеличить товарооборот между двумя государствами до 10 миллиардов долларов США при существующих ныне 4 миллиардах. Президенты затронули экономически и геополитически перспективное направление. Взаимовыгодное использование географического положения двух стран в случае реализации этих идей позволит им стать ключевым звеном в транспортных потоках, связывающих Северо-Восточную Европу с Ближним Востоком и Центральной Азией. Сама же Украина сможет диверсифицировать поставки энергоносителей, получив доступ к каспийскому газу и снизив свою зависимость от российских поставок.

**В-четвертых,** две страны заинтересованы развивать сотрудничество в оборонно-промышленной сфере. На переговорах зафиксированы приоритетные направления, которые могут позволить продвинуться в этом направлении. Подписано соглашение о военно-финансовом сотрудничестве. В качестве жеста доброй воли Турция решила безвозмездно предоставить Украине сумму, эквивалентную 36 миллионам долларов США, для закупки своих товаров военного назначения.

**В-пятых,** подписаны соглашения в культурной и гуманитарной сферах. С одной стороны, это позволит увеличить туристический обмен между гражданами двух стран, а с другой – Турция готова построить более 500 домов для нуждающихся семей близких им по ментальитету национальных меньшинств, проживающих в Украине.

Что можно отнести в пассив? Президент Украины, выражая сочувствие президенту Турции и ее народу, провел параллели между гибелью турецких и украинских солдат. Но тут есть существенное различие: турки гибнут на чужой территории, а украинцы – на своей.

Кроме этого, Владимир Зеленский дал поручение главе СБУ заняться вопросом деятельности образовательно-культурных учреждений оппозиционного проповедника Фетуллаха Гюлена на территории Украины, тем самым втягивая свою страну во внутритурецкие политические конфликты между властью и оппозицией. А между тем у этой части турецкой оппозиции достаточно сильное политическое лобби в Европе и США, что может привести к нежелательным конфликтам с западными партнерами Украины.

На встрече так и не подписали соглашение о зоне свободной торговли между Турцией и Украиной. Документ отложен до согласования отдельных положений. Само по себе это важное соглашение, но экономически Украина гораздо слабее Турции и может не выдержать конкуренции.

В целом, подводя итог, можно констатировать, что Турция открыта для полноценного стратегического сотрудничества. Это уже вторая встреча за последние полгода между главами двух государств. Турецко-украинские отношения динамично развиваются на самом высоком уровне. Но Украина должна наполнить содержанием и конкретикой прежде всего свои инициативы и предложения.

Выстраивание отношений с Турцией – важное направление для Украины, но и очень сложное. Заявлены амбициозные цели, поставлены реальные задачи, исполнение которых может привести к долгосрочному взаимовыгодному стратегическому партнерству. Но есть вопросы. Готова ли Украина, прежде всего кадрово, к решению этих задач? Сумеет ли Владимир Зеленский соблюсти баланс между интересами разных политических групп: турецким авторитарным лидером и оппозиционными ему силами, поддерживаемыми Западом? Да и в контексте развития турецко-украинских отношений всегда надо учитывать российский фактор...

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

РАКУРС

# Для дзяцей чыноўнікаў не павінна быць блату ў арміі

*Сёлета ўступіў у сілу абноўлены закон аб прызыве ў армію. Неўзабаве адтэрміноўку ад войска з прычыны вучобы можна будзе ўзяць толькі адзін раз. Гэта значыць, што пасля ўніверсітэта хлапцам нельга будзе пайсці ў магістратуру без перапынку на вайсковую службу. На пачатку мінулага лета навіна пра планаваныя змены выклікала масавае абурэнне сярод студэнтаў – тады цягам сутак петыцыя супраць закона сабрала 10 тысяч подпісаў. Усё гэта можа сведчыць пра адсутнасць прэстыжу службы ў войску.*

*Між тым, напрыклад, у Ізраілі ваенная служба абавязковая, але не прымусовая. Там гэта вялікі гонар, «адкасіць» ад службы лічыцца вялікай ганьбай.*

*Мы паразмаўлялі з **Барысам-Давідам Балтэ** – ізраільцянінам і шчырым беларускім патрыётам. Многім ён стаў вядомым пасля таго, як здалёк прыехаў на перапахаванне Каліноўскага і разгарнуў там, у Вільнюсе, ізраільскі сцяг. А ў сябе дома, у Ізраілі, Барыс на ўсе ўчачысціцы і святы прыходзіць з беларускім нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам.*

*У Ізраілі ён прайшоў вайсковую службу і нават вайну.*



**– Як праходзіла ваша ваенная служба?**

– Гады службы ў войску самы памятны час маёй ізраільскай часткі жыцця. Колькі разоў мне рабілі зніжкі ў краме, калі бачылі маю ваенную форму! Нават кармілі бясплатна. Ты адчуваеш адзінства з героямі, адзінства з пачаткоўцамі і стараслужачымі. Нават з афіцэрамі.

**– Які дух панаваў у грамадстве падчас ваенных пагроз?**

– Калі была вайна ў Газе летам 2014 года, я пайшоў туды добраахвотнікам, хаця не служыў у баявых войсках. Я бачыў усмешкі і ўпэўненасць у людзях, якія ішлі ў бой. І, хутчэй за ўсё, ішлі на смерць.

**– Ізраіль узнік у стане вайны і змог за кароткі час кансалідаваць нацыю і стварыць як моцную армію, так і развітую прагрэсіўную дзяржаву. Ці спрыяюць ваенныя канфлікты ўзмацненню нацыі?**

– Ізраільцяне загартаваны пастаяннай пагрозай. Калі ты не будзеш гатовы даць адпор – цябе знішчаць.

Мы ўвесь час адчуваем, што за намі стаіць краіна. Краіна дэмакратычная, таму ты вымушаны адной рукой адбіваць ворага, а другой павышаць узровень жыцця. Праца для сапраўдных тытанаў.

**– У Вялікім Княстве Літоўскім, спадкаемцам якога мы лічым Беларусь, была традыцыя ўсеагульнай мабілізацыі – паспалітае рушэнне. Зараз стаўленне да службы ў войску ў нас зусім іншае. Як, на вашу думку, можна стварыць сучаснае нацыянальнае войска, якога не цураліся б маладыя людзі?**

– Па-першае, успомніць карані, хто мы такія.

Па-другое, зьмяніць тое ўспрыманне войска, якое навязана Беларусі двума стагоддзямі акупацыі: салдаты – гэта маўкліве мяса, дзецюкі, якія дрэнна вучыліся ў школе (таму і забралі ў войска), целамі якіх можна закідаць ворага. А калі вайны няма, то іх можна выкарыстоўваць як бясплатную працоўную сілу, напрыклад, на будаўніцтве ці на парадах пад чужыя маршы і пад чужымі штандарамі.

Па-трэцяе, войска павінна быць для ўсіх без выключэння. Ад дзіцяці апошняга алкаголіка да сына прэзідэнта.

Па-чацвёртае, для таго ж дзіцяці апошняга алкаголіка войска павінна стаць трамплінам у нармальнае жыццё. І ў Ізраілі ёсць тыя, каго служба ў арміі выратавала ад вуліцы і турмы.

Па-пятае, салдат – такі ж грамадзянін, як і іншыя. Не тое што біць, нават словам яго нельга абразіць. Хто будзе ваяваць за камандзіра-нягодніка? Толькі калі ззаду паставіць загараджальны атрад.

Па-шостае, салдат павінен ведаць, што ён абараняе. Калі ён кожныя выхадныя будзе бачыць сям'ю, ён будзе ведаць, дзеля каго ён служыць. Гэта мінімум.

**Францішак ЦЯРЭШКА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
11 ЛЮТАГА 2020 г.

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ

# Маё жыццё


Ліпень 1993 г. Пачатак афіцыйнага візіту ў ЗША.

*(Заканчэнне. Пачатак у №№10,11.)*

21 лістапада 1938 года Панамарэнка адправіў Сталіну ліст «Аб беларускай мове, літаратуры і пісьменніках». Этнічны кубанец, невук у беларускай літаратуры і мовазнаўстве, ён паведамляў правадыру прамым тэкстам: хачу ўсіх, хто лічыць сябе беларусам і набраўся нахабства пісаць і гаварыць па-беларуску, арыштоўваць, катаваць, расстрэльваць…

Я знарок не перакладаю фрагменты гэтага ліста на беларускую мову і прыводжу іх слова ў слова:

*«Враги народа, пробравшиеся в свое время к партийному и советскому руководству Белоруссии, ставившие целью отторжение Белоруссии от Советского Союза и организацию «самостоятельного» Белорусского государства под протекторатом Польши прилагали много усилий для идеологической подготовки этого отторжения... Работали они умело. Матерых националистов, «щирых белоруссов» вербовали сразу и вводили в курс задач-идей...*

*Наиболее крупную контрреволюционную националистическую работу провел союз «советских» писателей Белоруссии, идейно возглавляемый всегда десятком профашистских писателей (в том числе известные Янка Купала и Якуб Колас) и всегда для прикрытия (в том числе и сейчас) имевший у руководства коммунистов. В этом союзе несправедливой критикой, клеветой, издевательством, пренебрежением затравили не одного честного коммуниста и беспартийного писателя. Здесь разлагали литературное движение, здесь боролись с Советской властью под видом борьбы за эту власть. Здесь ненависть ко всему русскому доходила до болезненной истеричности. Здесь был центр-штаб национал-фашистской пропаганды. Здесь говорили о застое культуры и объясняли его тем, что белорусский и украинский языки близки к русскому как языки славянские и наиболее сильная славянская культура, русская, их ассимилирует. Другое дело, говорили, Грузия, там язык совсем другой, руководители свои грузины, преданные своей грузинской культуре, не так, как в Белоруссии, где всегда «московские генерал-губернаторы».*

*Говорили о том, что русская культура действительно выше культур других союзных республик, но объясняли это тем, что русская культура выросла на костях малых народов.*

*Сама мысль о сближении белорусского и русского языков была ужасной. Янка Купала пустил крылатое выражение «пока живе мова, живе народ»... Пользуясь полной свободой, не стесняемые ничем, эти писатели монополизировали за собой право толкователей языка, право создания новых слов, терминов, лозунгов и т.д. Они перед этим пытались и внешне отдалить язык от русского...*

*Вся эта вражеская работа в области правописания, неразбериха, путаница, смесь в правилах определяют большую безграмотность оканчивающих школы. Позволю привести ряд примеров, слов и оборотов, имеющихся сейчас в белорусской литературе. Слово «подъем» заменено каким-то диким словом «уздым». «Образование» – «адукацыя». «Краски» – «фарбы». «Борец» – «змагар». «Отечественный» – «айчынны» (от польского «ойчизна»). «Правительство» – «урад»??? «Годовщина» – «гадавіна» (белорусы говорят так в смысле «гад-гадюка»). «Баня» – «лазня». «Беспредельный, безбрежный, безграничный» – «бязмежны» (пример сознательного обеднения языка). «Безопасность» – «бяспечнасць» (отсюда «органы государственной безопасности» – «органы государственной беспечности»). Слово «товариш» заменено словом «сябр». «Друг» – тоже «сябр». «Дружба» – «сяброўства». «Благожелатель» – «зычлівец»...*

*«Крупны» – «буйны» (отсюда «крупный деятель» – «буйны дзеяч»)... В лозунге «Пролетарии всех стран, соединяйтесь», слово «соединяйтесь» заменено словом «злучайцеся», а в народе «злучайцеся – злучка» все равно что и по-русски «случайтесь – случка». Лозунг «Да здравствует годовщина Октябрьской революции» на белорусском языке «Няхай жыве гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі» испохаблен от начала до конца. Белорусы говорят «здравствуй», а «няхай» означает «пусть» в смысле пренебрежительного «так и быть». «Гадавіна» означает гада большого размера. Так и говорят «Ух, якая гадавіна». «Октябрь» – «кастрычник». Но «кастрыца» – это не лен, а отбросы от льна...*

*...Получилось так, что вся эта кучка нацдемовских заправил сохранилась до сих пор. Даже организационно, в Союзе писателей. Они печатали и печатают внешне патриотические стихи и произведения, насквозь фальшивые, необходимые для выражения советскости (их буквальное выражение). Янка Купала говорит, что все, что он написал при Советской власти, не творчество, а дриндушки. Они говорят о том, что теперь литература сведена на роль придатка, разъясняющего или восхваляющего, что это не творчество, а иллюстрация. В литературе нельзя ничего ставить и решать, так как партия уже решила на много лет вперед, план составлен, иллюстрируй то, что прошло...*

*Янка Купала недавно сказал: «Все наши карты биты, лучшие люди истреблены, надо самому делать харакири». (Он уже пытался один раз покончить с собой.) В другой раз он начал жаловаться (в своем кругу) на безудержную тоску, на то, что никакой Белоруссии он не видит вокруг себя, что его жизнь прожита даром, что он скоро умрет с такой же тоской о Белоруссии, с какой начинал свою жизнь в молодости.*

*Эти настроения растерянности, творческой пассивности, обреченности характерны и для других белорусских писателей, отдавших жизнь (в разной степени) нацдемовщине. Конечно, среди них есть и такие, которых политические события последнего времени сильно отрезвили и повернуть которых для честной работы возможно и необходимо. Сейчас уже пора сделать определенные выводы, показать свое отношение к ним и начать большую работу. Что, по-моему, нужно сделать?*

*...Решительно очистить литературу от произведений с национал-фашистской контрабандой (кое-что мы в этом направлении уже сделали), поднять литературную преданную молодежь, освежить литературу, укрепить руководство Союза писателей.*

*В отношении Янки Купалы, Якуба Коласа, Бровко, Глебки, Крапивы, Бядули, Вольского, Аксельрода и др. членов этой «могучей кучки», узурпировавшей представительство от белорусской литературы всюду, в том числе и за рубежом, людей, творческая авторитетность которых непомерно раздута, проводивших лично всю описанную выше вражескую работу, имеются многочисленные показания разоблаченных и арестованных врагов, изобличающие их вплоть до связей с польской дефензивой.*

*В отношении Янки Купалы имеется 41 показание, в большинстве прямые; Якуба Коласа – 31 показание; Крапивы – 12 показаний и так далее. По количеству и качеству изобличающего материала, а также по известным нам фактам их работы они, безусловно, подлежат аресту и суду как враги народа. В частности, Наркомвнудел Белоруссии запросил из центра санкцию на арест Купалы и Коласа уже давно, но санкция пока не дана…»*

– Якая пачвара! – усклікнуў адзін са студэнтаў на лекцыі, калі я бегла прачытаў некаторыя з гэтых радкоў, а далей дадаў:

– Вялікі Лермантаў роўна за сто гадоў да страшнага 1937-га сказаў пра такіх: «Не мог хранить он нашей славы, не мог понять в сей миг кровавый, на что он руку поднимал».

Не мог зразумець таварыш Панамарэнка – ардынарны прымітыў і невук у пісьменніцкіх справах, замбіраваны чалавеканенавісніцкай камуністычнай ідэалогіяй і пастаўлены кіраваць Беларуссю, – чаму няма санкцыі арыштоўваць, расстрэльваць і катаваць тых, хто любіць свой край, хоча працаваць для яго дабрабыту, хто гаворыць на старадаўняй славянскай мове, не маладзейшай за рускую. Тым не менш таварыш Панамарэнка гатовы быў праявіць пэўнае вялікадушша і дазволіць асобным пісьменнікам «*искупить свою вину перед Советской властью*».

Якую віну? Ніякай віны не было. Сама камуністычная партыя задоўга да сканання СССР гэта прызнала. Аднак асабіста я не ведаю ні аднаго камуністычнага кіраўніка Беларусі – прыхільніка нацыянальнага адраджэння беларусаў. А пра кіраўнікоў КПСС і СССР і гаворкі не магло быць. Калі першай асобай у Савецкім Саюзе стаў Хрушчоў, ён наогул абурыўся тым, што ў Мінску грамадзяне маюць смеласць гаварыць на незразумелай для яго мове. Паводле яго перакананння, усе тыя, хто крочыць да камунізму, павінны былі гаварыць па-руску.


Паміж двух народных... З пісьменнікамі Васілём Быкавым і Нілам Гілевічам.

У пасляваенныя гады тактыка дэбеларусізацыі змянілася. Дзякуючы працалюбству, арганізаванасці і дысцыплінаванасці беларускіх сялян і гараджан, Беларусь хутчэй за іншыя рэспублікі, у тым ліку прыбалтыйскія, выйшла на высокі па мерках СССР узровень сацыяльна-эканамічнага развіцця. Але папярэднія рэпрэсіі і чысткі, плюс самыя вялікія страты ў вайне не спрыялі беларусам прыняць ідэі прававой і нацыянальнай дзяржавы. Большасць грамадзян рэспублікі ўспрымала камуністычнае кіраўніцтва і савецкую ўладу не як мадыфікаванае каланіяльнае кіраванне, а як частку ўласнай гісторыі. Вайскоўцы з усяго Савецкага Саюза, выходзячы на пенсію, стараліся пасяліцца ў Беларусі, бо тут быў спрыяльны для іх нацыянальны клімат у адрозненне, напрыклад, ад Эстоніі, Латвіі, Літвы.

Прыўладная наменклатура Беларусі пасля 1945 года ўсё болей разбаўлялася мігрантамі, страціла досвед самастойнага дзяржаўнага кіравання. Беларусы лічыліся на прасторах СССР самымі савецкімі людзьмі, больш савецкімі, чым рускія, і адчувалі з гэтай нагоды непрыхаваную гордасць. Але нават у наменклатурным асяроддзі працягвалася выдаленне найбольш здольных патрыятычна арыентаваных партыйных функцыянераў. Іх пераводзілі ў Маскву або на больш высокія пасады ў іншыя месцы СССР. Там яны хутка паддаваліся асіміляцыі, пранікаліся вялікадзяржаўнай ідэяй, рабіліся больш заўзятымі шавіністамі, чым іх расійскія настаўнікі. Да пачатку гарбачоўскай перабудовы кіроўныя колы Беларусі ў большасці былі настроены антынацыянальна. Любая праява беларускасці ўспрымалася імі як нейкі рудымент мінулага. Такую ж лінію паводзін яны навязвалі насельніцтву Беларусі.

За савецкія часы побыт і народны характар беларусаў моцна змяніўся пад уздзеяннем савецкай прапаганды, калектывізацыі, індустрыялізацыі. Змяніліся псіхалогія і светапогляд беларускага селяніна. Быў створаны новы тып чалавека, мала падобны па сваім духоўным абліччы на ранейшае пакаленне. У духоўным сэнсе і беларуская вёска змянілася не ў лепшы бок. Падчас цяжка паверыць, што сённяшнія грамадзяне Беларусі – нашчадкі тых беларускіх сялян, пра якіх архіепіскап Апанас Мартас, былы епіскап Віцебскі і Полацкі, пісаў: «*Беларускія сяляне заўсёды адрозніваліся працалюбствам, вытрываласцю і любоўю да сваіх сем'яў. Гэтыя якасці моцна лучылі іх з роднымі агменямі і ўтрымлівалі перад ад'ездам у другія краі для пошуку працы і месцажыхарства… Паводле прыроды сваёй беларускія сяляне міралюбныя, цярплівыя і дабрадушныя. Дзякуючы такім якасцям суседзі жылі ў міры, у святочныя дні наведвалі адзін аднаго, а ў бядзе ўзаемна дапамагалі*».

Большасць кіраўнікоў БССР прысылалася з Масквы і паслухмяна выконвала яе волю. Маскоўскія стаўленікі ўмела зводзілі чубамі прадстаўнікоў розных кланаў: мінскага з гродзенскім, гомельскага з брэсцкім і гэтак далей. Гарбачоўская перабудова і галоснасць спрыялі агаленню гэтых працэсаў і паскорылі крах верхніх эшалонаў партыйнай наменклатуры ў Беларусі.

## Эліта палітычная і творчая

Той даволі стракатай сумесі, якую прынята лічыць палітычнай элітай Беларусі, уласцівы комплекс непэўнацэннасці: яна не з'яўляецца актыўнай у адстойванні права на гістарычнае існаванне беларускай культуры, цывілізацыі, дзяржаўнасці. Яе прадстаўнікі ў лепшым выпадку штосьці ведаюць пра Еўфрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага, штосьці чулі аб прыдворных тэатрах Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх, аб тэатры Зорыча ў Шклове. Асобныя яе прадстаўнікі толькі па хрэстаматыях савецкіх часоў знаёмы з творчасцю Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Васіля Быкава.

Выняткам з большасці сталі грамадзяне, якія стварылі ў няпростым 1988 годзе Беларускі Народны Фронт (БНФ). Яны паспрабавалі ачысціць гісторыю Беларусі ад савецкіх, камуністычных і іншых скрыўленняў. Спачатку ім гэта ўдавалася. Прадстаўнікі БНФ здабылі амаль 10 працэнтаў месцаў у Вярхоўным Савеце 12-га склікання, разам з іншымі дэпутатамі – прыхільнікамі БНФ – па шэрагу ініцыятыў гэта лічба павялічвалася ўдвая. Але старая дасведчаная партыйная наменклатура змагла іх перамагчы на даволі сумленных парламенцкіх выбарах 1995 года, а пасля і наогул выштурхнуць з гульні на палітычным полі.

Важкую ролю ў нацыянальным і духоўным адраджэнні краіны павінна была адыграць беларуская творчая інтэлігенцыя. Аднак большасць людзей, якія маюць падставы быць прылічанымі да гэтай катэгорыі грамадзян, паводзіла сябе пасіўна. Яны не прапанавалі замяніць навязаны камуністычнай сістэмай «маральны кодэкс будаўніка камунізму» адзінай прывабнай сістэмай базавых грамадзянскіх каштоўнасцяў і маральных арыенціраў.

За рэдкім выняткам у беларускай мастацкай літаратуры, кінематографе, жывапісе практычна адсутнічае захапляльны гісторыка-гераічны жанр, хаця гістарычная навука дала для падобнай творчасці найбагацейшы фактычны матэрыял. Беларускія пісьменнікі, дзеячы беларускай адукацыі і культуры рэдка ўспамінаюць аб нашай больш старажытнай за расійскую дзяржаўнасці, больш даўнім статусе беларускіх гарадоў, больш раннім і больш дэмакратычным пісаным праве, кнігадрукарстве, што апярэдзіла на 50 гадоў расійскае. У той жа час сёй-той з вернападданніцкай стараннасцю адшуквае аргументы, якія апраўдваюць дзеячаў накшталт Аляксандра Суворава і Мураўёва-вешальніка.

Для большасці беларускіх пісьменнікаў гісторыя сваёй краіны пачынаецца з Другой сусветнай вайны, у лепшым выпадку – з часоў расійскай рэвалюцыі 1905 года. Тым самым яны міжволі працягваюць працаваць на ўмацаванне савецкай ментальнасці, а не імкнуцца выхаваць у маладога пакалення законнае пачуццё гонару за сваю Бацькаўшчыну і ўстойлівае імкненне зрабіць сваю Радзіму сучаснай незалежнай заможнай еўрапейскай дзяржавай.

На шчасце, ёсць у сучаснай беларускай літаратуры і вялікія постаці. На іх не павінны кінуць цень мае папярэднія разважанні. У першым эшалоне з вялікім адрывам ад астатніх – Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч. Баюся некага пакрыўдзіць, таму не буду пералічваць тых, хто, на маю думку, утварае другі эшалон. Яны, як і чацвёрка першых, таленавітыя, працалюбныя, сумленныя, а таму – бяспраўныя. У сучаснай Беларусі сапраўдныя творцы недапушчальна дрэнна забяспечаны матэрыяльна. У той жа час паслухмяная нелегітымнай уладзе пісьменніцкая большасць і сёння не дэманструе сваёй палітычнай адукаванасці.

Без стомы ўсіх павучаючы, пісьменнікі не спрабуюць разабрацца ў пачатках паліталогіі нават на ўзроўні падручнікаў сучаснай сярэдняй школы. Пры гэтым на рэдкасць дружна сышліся ў поглядах тыя, хто па-ранейшаму з «камуністычнай перакананасцю» славіць любую рэальную ўладу, і тыя, хто за крытыку савецкіх рэалій прыгрэты заходнімі грантамі, а нярэдка і наогул утульна ўладкаваўся за мяжой. Ва ўсіх сваіх праблемах гэтыя «інжынеры чалавечых душ» лічаць вінаватымі народ і апазіцыю. Яны перашкаджаюць прагрэсіўнаму рэфармаванню Беларусі і міжволі з'яўляюцца хаўруснікамі сённяшняга кіроўнага рэжыму.

У савецкі час беларуская нацыянальная палітычная эліта ў большай ступені, чым эліты іншых рэспублік СССР і краін «сацыялістычнага лагера», была знішчана фізічна, дэмаралізавана і раз'яднана. Яе ў значнай ступені генетычна збяднелыя ў сэнсе беларускасці нашчадкі з партыйнай наменклатуры былі прывучаны да вернападданства Савецкаму Саюзу, Расіі, рускай мове, камуністычным ідэалам, паколькі доўгі час былі ізаляваны фізічна і інфармацыйна ад прынятых у свеце цывілізаваных людскіх каштоўнасцяў. Пасля распаду СССР наменклатура пабаялася новых правіл гульні, пабаялася цяжкасцяў авалодвання імі, цяжкасцяў навучання, пабаялася, што беларуская дзяржаўнасць парушыць яе звыклую прыналежнасць да эліты.

Няма і не можа быць сумневу ў тым, што беларуская апазіцыя не лепшым чынам змагаецца за змену палітычнай сістэмы і супрацьстаіць цемрашальству ўлады. Забываецца тое, што «палітычнай апазіцыі» ў нармальным сэнсе гэтага слова ў Беларусі няма і пры гэтым рэжыме не можа быць. Тым не менш заўзятыя пісакі, у тым ліку і тытулаваныя пісьменнікі і журналісты, публіцысты, падкормленыя заходнімі грантамі, патрабуюць ад беларускіх грамадзян, якія захавалі мужнасць супрастаяць рэжыму, таго, што маюць права патрабаваць ад сваёй апазіцыі грамадзяне краін цывілізаваных. Гэтыя дзеячы паразітуюць на целе рэпрэсаваных рэжымам беларусаў і атрымліваюць дапамогу за дэзінфармацыю Захаду, спароджаную іх палітычнай непісьменнасцю. Яны ніяк не могуць зразумець, што на іх радзіме няма ніякай прававой дзяржавы, што права адпрэчваецца кіроўнай хеўрай у кожным выпадку, калі яно пярэчыць яе інтарэсам. Калі ж выкрываецца іх палітычная непісьменнасць, яны з гонарам заяўляюць: мы – людзі творчыя, мы па-за палітыкай.

Паўтаруся: апазіцыі ў Беларусі няма і не можа быць, бо пачынаючы з 1996 года няма выбараў, а апазіцыя, якая існавала ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання, была ліквідавана разам з Вярхоўным Саветам. Ёсць людзі, пераважна бяспраўныя, абсалютна незабяспечаныя, праследаваныя рэжымам, якія маюць мужнасць супрацьстаяць цемрашальству, уседазволу, беззаконню, прыніжэнню чалавечай годнасці нелегітымнай уладай. Іх і называюць апазіцыяй.

***

Беларусы – талерантныя і добразычлівыя людзі, яны падобныя на французаў Праванса, пра якіх так вобразна сказаў Антуан дэ Сэнт-Экзюперы: «У Правансе, калі гарыць лес, усе, хто не свалата, хапаюць вёдры і рыдлёўкі». Агалцелай прапагандысцкай хеўры і сілавікам кіроўнага рэжыму ўдаецца пакуль ашукваць і стрымліваць многіх грамадзян Беларусі, але беларускі лес гарыць, і усё больш людзей усведамляюць гэта.


Сустрэча ў Авальнай зале з Білам Клінтанам.

## ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

### Падманулі жонку

*Пакуль быў на працы, на кватэру да нас прыйшлі нейкія «менеджары» з фірмы і «апрацавалі» жонку – прадалі ёй дарагі і непатрэбны нам тавар. Дамову яна падпісала, аформіла крэдыт. Ці можна вярнуць гэты тавар?*

**Аляксей МАЖЭЙКА, Гродна.**

– Можаце. Заяўляйце прэтэнзію і скасоўвайце крэдытную дамову. Калі спатрэбіцца юрыдычная дапамога, можаце звярнуцца да спецыялістаў па абароне правоў спажыўцоў.

### Забыў пальчаткі

*Забыў пальчаткі ў магазіне, хаця дакладна і не ўпэўнены, што згубіў іх менавіта ў гэтым месцы. Якія мае далейшыя дзеянні?*

**Канстанцін РАЖКЕВІЧ, г.Мазыр.**

– Найперш можаце звярнуцца з заявай у міліцыю, няхай правядуць расследаванне. Зараз практычна ў кожным магазіне ёсць відэакамеры, таму запісы могуць праглядзець і, магчыма, высветліць, дзе вашы пальчаткі.

### Вярнуць памаду

*Набыла ў магазіне памаду, але дома высветлілася, што такі колер мне не падыходзіць Ці можна вярнуць тавар?*

**Святлана ПРОТАС, г.Баранавічы.**

– Нельга. Памада адносіцца да групы тавараў, якія вярнуць нельга.

### «Паляцела» зараднае прыстасаванне

*Набыў зараднае прыстасаванне, але прыкладна праз два месяцы яно «паляцела». Стала дрэнна прымаць зарад, хутка разраджаецца. Ці можна яго абмяняць на іншы тавар альбо трэба аддаваць у гарантыйны рамонт?*

**Валянцін ГОЛУБ, г.Полацк.**

– Замяніць прыстасаванне ці вярнуць грошы можна толькі ў тым выпадку, калі ў ім ёсць істотны недахоп.

### Адваліліся шпалеры

*Рабілі рамонт у кватэры, шпалеры паклеілі нейкія нядобрасумленныя працаўнікі. Ужо праз паўмесяца яны адкleіліся. Ці павінны гэтыя работнікі несці адказнасць?*

**Таццяна МІТРАШЭНКА, г.Барысаў.**

– Абавязана. Калі не захочуць выпраўляць недахопы, можаце звярнуцца да юрыстаў у таварыства па абароне спажыўцоў.

### Сапсаваная дзіцячая цацка

*Купіў малому сыну цацачны камп'ютар, а дома ўбачыў, што на экране расколіна. Гэта, безумоўна, не сапраўдны камп'ютар, але я аддаў грошы, каб набыць незламаную рэч. Ці магу я вярнуць грошы?*

**Андрэй ЛАПЕХА, г.Жодзіна.**

– Можаце. Дарэчы, прадаўцы ведаюць, што ў кітайскіх цацках шмат недахопаў, таму, наколькі вядома, без праблем прымаюць тавар назад.

### Планшэт на гарантыі

*У мяне зламаўся планшэт, гарантыйны тэрмін яшчэ не выйшаў. Ці маю права памяняць на спраўны?*

**Сяргей ЛАЎРОЎ, Віцебск.**

– Толькі пры наяўнасці істотнага недахопу, пацверджанага заключэннем экспертаў.

### Не падышла сукенка

*Набыла сукенку, але мама падарыла такую ж. Ніводнага разу яе не апранала. Ці можна вярнуць яе назад у магазін?*

**Кацярына ХОДАС, Гомель.**

– Вярнуць якасны тавар можна на працягу 14 дзён з дня пакупкі.

### Зламаўся робат-пыласос

*Набыў дарагі робат-пыласос у крэдыт, а ён зламаўся. Я яшчэ нават не разлічыўся за крэдыт. Што рабіць?*

**Васіль ПІНЧУК, г.Вілейка.**

– Звярніцеся да экспертаў, якія зробяць заключэнне па тэхніцы. Ад гэтага і адштурхоўвайцеся.

НЕСТАНДАРТ

# Не такі, як іншыя...

*Аб тым, што ўяўляе сабой аматарскі фрык-тэатр «Гексаген» пры Гродзенскім цэнтры культуры, карэспандэнту «Народнай Волі» расказаў яго кіраўнік Васіль Коўш.*

### Без абмежаванняў

Ідэя фрык-тэатра ў прафесійнага гродзенскага акцёра і рэжысёра Васіля Каўша з'явілася яшчэ ў 2012 годзе і тады ж хутка пачала ўвасабляцца ў жыццё.

*– Што такое фрык?* – перапытвае акцёр і сам жа тлумачыць. – Фрык – назва цыркавых артыстаў, якая з'явілася яшчэ ў XX стагоддзі, «не такія, як іншыя». Гэта вельмі шырокі жанр, які можа адлюстроўваць усё, што выканаўцы захочуць паказаць гледачу. Мы ствараем не толькі класічныя тэатральныя пастаноўкі, а таксама і гістарычныя замалёўкі, абстрактныя і абсурдныя, прадстаўляем іх на вуліцах і ў памяшканнях. У нас у гэтым плане наогул няма абмежаванняў.

Васіль Аляксандравіч тлумачыць, што іх тэатральныя пастаноўкі маюць адметнасць па часе і месцы дзеяння і не прывязаны жорстка да той ці іншай сцэнічнай пляцоўкі.

*– Нашы спектаклі могуць займаць 10–12 хвілін, праходзіць проста на вуліцы, і за гэты час мы павінны данесці да гледача ўсё: эмоцыі, сэнс, эстэтычна задаволіць і паўплываць на яго,* – распавядае рэжысёр. *– Акрамя ўсяго, у нас ёсць пластычныя пастаноўкі для людзей, якія страцілі слых. Мы імкнёмся дайсці да кожнага гледача.*

Яшчэ ў жанры «фрык» гродзенскія акцёры выкарыстоўваюць мноства сцэнічных прылад: ходзяць на хадулях, працуюць у падвесці, паказваюць пастаноўкі з лялькамі і маскамі, працуюць з мімікай і пластыкай.



### «Сыходзім з таго, што хвалюе нас і людзей»

Што тычыцца рэпертуару, яго падбор залежыць ад кожнага ўдзельніка. Увесь калектыў тэатра каля 15 чалавек, але толькі кіраўнік і яго намесніца – прафесійныя акцёры. Астатнія – людзі самых розных прафесій: урач, эканаміст, настаўнік, электрык, кіроўца, інжынер. Але ўсе маюць роўны голас. Калі ў некага з'явілася прапанова аб той ці іншай пастаноўцы, абмяркоўваюць усе разам.

*– У нас у рэпертуары вядомы Хармс, зараз рыхтуем спектакль пра гродзенскую шляхту, аўтарам якога, дарэчы, з'яўляюся я сам, рыхтуецца і монаспектакль пра адносіны Цвятаевай і Пастарнака,* – распавядае Васіль Коўш. *– Рэпертуар вельмі разнастайны, паколькі магчымасці фрык-тэатра гэта дазваляюць. Вельмі хочам паставіць Шэкспіра, спрабуем зараз працаваць над асобнымі сцэнамі. Яшчэ у планах п'есы беларускага аўтара – Галубка.*

Невялікія замалёўкі пра жыццё беларускай шляхты, сялян, якія часта з'яўляюцца на вуліцах горада, нагадваюць тыя інтэрмедыі, якія ў XIX стагоддзі акцёры ладзілі ў вёсках і мястэчках. Такія кароценькія пастаноўкі яскрава адлюстроўваюць традыцыі беларускага тэатра.

*– Яны заўсёды на беларускай мове, і мы імкнёмся паўплываць на гледача, вярнуць яго да нашай традыцыі, падкрэсліць яе самабытнасць. І гэта не проста даніна, над гэтым трэба шмат працаваць,* – заўважае кіраўнік тэатра.

Ёсць і яшчэ адна важная функцыя, якую падкрэслівае рэжысёр:

*– 27 студзеня, калі ва ўсім свеце адзначалі Дзень памяці ахвяр Халакосту, акцёры тэатра зладзілі флэшмоб, прайшоўшы па цэнтральных вуліцах горада ў адзенні вязняў гета, з апушчанымі галовамі, адзін за адным, як гэта было ў Гродне падчас вайны. У гэтым наша грамадзянская пазіцыя.*

Мастацтва павінна несці не толькі эстэтычную нагрузку, уплываць на гледача, рабіць яго лепшым, але і абавязкова нагадваць яму аб тым, што было ў нашай гісторыі, – лічыць кіраўнік фрык-тэатра.

### «Прабілі сабе сцэну, але грошай не зарабляем»

Васіль Аляксандравіч распавядае, што большасць іх выступленняў адбываецца падчас гарадскіх вулічных мерапрыемстваў.

*– Толькі нядаўна мы «прабілі» сабе сцэну – маем магчымасць праводзіць рэпетыцыі ў Цэнтры культуры, што дазваляе павысіць якасць пастановак,* – распавядае акцёр. *– Рэпетыцыі – гэта тое, без чаго не можа адбыцца ніводзін тэатр. І вельмі важна, каб яны адбываліся ў прыстойных умовах, дзе ёсць святло, гук...*

Ці зарабляе тэатр грошы? Не, кажа кіраўнік, ён аматарскі, і такая мэта не ставіцца.

*– Кожны з нас недзе працуе, а сюды прыходзім у вольны час,* – заўважае Коўш. *– Людзей наш тэатр вабіць не магчымасцю зарабіць, кожны знаходзіць тут нейкую аддушыну ад будзённасці, творчую рэалізацыю, задавальненне і дорыць іх іншым.*

### Чаму «Гексаген»?

Кіраўнік тэатра патлумачыў, што назва з'явілася спантанна.

– Гексаген – гэта выбухоўка. Вось і мы сталі такой своеасаблівай культурніцкай выбухоўкай на гродзенскіх вуліцах.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ОФИЦИАЛЬНО

# КГБ опроверг информацию о задержании экс-министра Игоря Шуневича

Комитет госбезопасности опроверг информацию, распространенную рядом интернет-изданий, о том, что по «сахарному делу», возможно, задержан Игорь Шуневич.

«КГБ не задерживал Игоря Шуневича, никакие меры процессуального характера к нему не применялись», – сообщил сайту Sputnik в понедельник официальный представитель КГБ Беларуси **Андрей Ярош.**

Он подчеркнул, что Шуневич не является фигурантом ни одного уголовного дела из тех, которые находятся в ведении Комитета государственной безопасности.

Информация о возможном задержании Игоря Шуневича в связи с причастностью к «сахарному делу» появилась в субботу во второй половине дня: сначала ее распространил ряд Telegram-каналов, затем – подхватили интернет-ресурсы.

В правоохранительных органах, в том числе в КГБ, официального комментария по данному поводу не давали.

В Следственном комитете Беларуси в свою очередь отметили, что СК также не задерживал экс-министра внутренних дел Шуневича.

«В производстве СК РБ никаких материалов и уголовных дел в отношении Игоря Шуневича нет», – заявил начальник отдела информации и связей с общественностью центрального аппарата Следственного комитета Беларуси **Сергей Кабакович**.

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Вада ў Днепра-Брагінскае вадасховішча прыйдзе ноччу

У Лоеўскім раёне на Гомельшчыне адноўяць Днепра-Брагінскае вадасховішча, якое не выкарыстоўвалася як штучная ірыгацыйная сістэма з 2015 года. Распараджэнне аблвыканкама на гэты конт атрымала дзяржаўнае аб'яднанне «Гомельмеліявадгас», удакладніў яго генеральны дырэктар **Васіль Бруневіч**.

31 студзеня «Народная Воля» ў публікацыі «Каб Палессе не ператваралася ў Сахару» паведаміла пра ініцыятыву грамадскага актывіста з Лоева **Мікалая Анісаўца**, які на электронным сэрвісе petitions.by сабраў багата подпісаў пад зваротам да прэм'ер-міністра Беларусі **Сяргея Румаса** «Спыніць высушванне Палесся». У звароце, у прыватнасці, адзначалася, што Палескі рэгіён з прычыны недахопу вады фактычна патрапіў зараз у зону экалагічнага бедства. Ідзе «сахарызацыя» Палесся. Сельская гаспадарка ў рэгіёне з прычыны недахопу вільгаці апынулася ў крызісным стане.

Паводле інфармацыі рэгіянальнага АПК, летась з прычыны засушлівага лета, перападаў тэмпературы і моцнага ветру на Гомельшчыне загінула 4,5 працэнта пасеваў, дзясятая частка пашкоджана.

Ці паўплываў грамадскі збор подпісаў пад зваротам да прэм'ер- міністра на рашэнне гомельскіх улад пра аднаўленне Днепра-Брагінскага вадасховішча, дакладна не вядома. Аднак вядома з інфармацыйных паведамленняў, што па даручэнні ўрада Інстытут прыродакарыстання НАН Беларусі выпрацоўвае комплекс захадаў для паляпшэння гідралагічнай сітуацыі ў Гомельскай вобласці. Гаворка ідзе пра абвадненне тэрыторый і аграэкасістэм. Стварэнне буйных вадасховішчаў і гаспадарлівае выкарыстанне меліяратыўных сістэм, адзначаюць навукоўцы, можа павялічыць колькасць ападкаў вясною прыкладна на 10, летам – на 8 працэнтаў.

Днепра-Брагінскае вадасховішча ў комплексе гідралагічнага рэгулявання займае важнае месца. Плошча яго воднага люстэрка – 968 гектараў.

Запаўняць вадасховішча меліяратары збіраюцца падчас веснавога пад'ёму вады ў рацэ Дняпро праз існуючы адмысловы канал даўжынёй 3,4 кіламетра. Спатрэбіцца амаль 43 мільёны кубаметраў вады і 3 мільёны кілават-гадзін электраэнергіі на працу помпавай станцыі.

Напаўняць сховішча вадою спецыялісты "Гомельмеліявадгаса" вырашылі ў начныя гадзіны, калі дзейнічаюць зніжкі на электраэнергію.

Фінансаванне праекта прадугледжана падпраграмай «Захаванне і выкарыстанне меліяраваных зямель» Дзяржаўнай праграмы развіцця аграрнага бізнесу ў Беларусі на 2016–2020 гады.

Апроч таго, у рэгіёне вяртаюцца да тэмы забалочвання альбо абваднення зямель, у прыватнасці выпрацаваных 6 тысяч гектараў тарфянікаў у Калінкавіцкім і Хойніцкім раёнах.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Уладзімір ПАЛЯКОЎ:

# «Ніякага ажыятажу няма...»

*Дырэктар спартыўна-аздараўленчага комплексу «Брыганціна», што пад Радашковічамі, распавёў «Народнай Волі» пра тое, як праходзяць каранцін кітайскія студэнты.*

На мінулым тыдні стала вядома, што ў сувязі з распаўсюджваннем каранавіруса студэнтаў, якія вяртаюцца з канікул з Кітая, адпраўляюць на каранцін у аздараўленчы цэнтр «Брыганціна», што пад Мінскам.

*«У Беларусі арганізаваны і праводзіцца комплекс санітарна-супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў, накіраваных на папярэджванне завозу і распаўсюджвання інфекцыі, выкліканай новым каранавірусам, – паведаміла прэс-служба Міністэрства аховы здароўя. – З мэтай дадатковай прафілактыкі і ў адпаведнасці з пажаданнямі студэнтаў, якія не выязджалі ў КНР, прынята рашэнне аб выдзяленні дадатковых месцаў на базе аздараўленчага комплексу «Брыганціна» для студэнтаў, якія прыбудуць у Беларусь з тых абласцей Кітая, якія не закрыты на каранцін і дзе не зарэгістраваны выпадкі захворвання.*

*Адзначым, што гаворка ідзе пра дадатковыя меры для студэнтаў, якія не былі ў кантакце з хворымі і не наведвалі эпідэмічна непаспяховыя раёны».*

У аздараўленчы цэнтр былі накіраваны спецыялісты, а медыцынскія супрацоўнікі, якія працуюць у лагеры, прайшлі дадатковую падрыхтоўку.

Паводле дадзеных Міністэрства адукацыі, цяпер у Беларусі навучаюцца каля 5 тысяч студэнтаў з Кітая, а на канікулы за межы краіны выехалі 920 чалавек.

– Знаходжанне ў нас кітайскіх студэнтаў я нават не называў бы каранцінам, – кажа дырэктар комплексу **Уладзімір ПАЛЯКОЎ**. – У нас жа не ходзяць у спецадзенні. Звычайная абстаноўка.

Медыкі робяць сваю справу, а мая задача, каб для людзей не было ніякіх нязручнасцяў. Таму працуем у штатным рэжыме. Рэгулярна дзяжурыць пост, у студэнтаў пастаянна правяраюць тэмпературу.

**– Чым займаюцца студэнты ?**

– Працягваюць вучобу дыстанцыйна. Па інтэрнэце атрымліваюць заданні, выконваюць іх.

У маладых людзей ёсць тэлевізары, нармальнае харчаванне, ва ўсіх свабоднае перамяшчэнне па тэрыторыі комплексу, а ён не такі і малы – больш за 12 гектараў. Адным словам, ніякага ажыятажу няма.

Сёння (10 лютага), здаецца, заязджае апошняя партыя – каля 50 чалавек. Праз два тыдні, калі нічога дрэннага не здарыцца, усе раз'едуцца і працягнуць вучобу ў сваіх навучальных установах.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТРАГЕДИЯ

# В Осиповичах под поезд попал мужчина в наушниках

*В Осиповичах поезд сбил мужчину в наушниках, он скончался на месте. Об этом БЕЛТА сообщили в МВД Беларуси.*

Трагедия произошла утром 9 февраля. «Около 6.45 на станции Осиповичи поезд бизнес-класса сообщением Гомель–Минск сбил 47-летнего местного жителя. Он скончался на месте. Установлено, что мужчина переходил железнодорожные пути по пешеходному переходу, но перед приближающимся поездом и в наушниках. На сигналы большой громкости пешеход не реагировал. Несмотря на экстренное торможение, избежать наезда не удалось», – рассказали в МВД.

Задержка в движении поезда составила 10 минут.

### ОТ РЕДАКЦИИ

Сколько раз писано-переписано, что ходить в наушниках по улице, а тем более по железнодорожным путям очень и очень опасно. Это не первый случай, когда из-за этого человек погибает. Может, многим людям стоит серьезно задуматься над тем, что дороже – лишние десять-двадцать минут не послушать музыку или навсегда распрощаться с жизнью?

КУЛУАРЫ

# Квіткі на люты ў Купалаўскі тэатр амаль усе прададзены!

*Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прадставіў сваю дзейнасць у лічбах. Некаторыя з іх уражваюць.*

Так, у мінулым годзе купалаўцы далі 430 спектакляў у Беларусі і па-за межамі краіны.

*«Рост колькасці спектакляў Купалаўскага тэатра за 2019 год склаў 120% у параўнанні з 2018 годам»,* – кажуць у тэатры.

Упершыню за апошнія гады колькасць гледачоў Купалаўскага перайшла 100-тысячны рубеж!

*«Колькасць гледачоў, якія наведалі Галоўную і Камерную сцэны Купалаўскага тэатра, склала 94.769 асоб, што забяспечыла рост колькасці на 115% у параўнанні з 2018 годам,* – гаворыцца ў справаздачы. *– У 2018 годзе больш за 4000 гледачоў наведалі спектаклі Купалаўскага тэатра падчас гастроляў па гарадах Беларусі і больш за 1800 гледачоў – падчас замежных гастроляў».*

Варта адзначыць, што на люты 2020 года ўжо прададзена 83% квіткоў.

*«Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца спектаклі, продаж квіткоў на якія складае 100%, – «Рэвізор», «Кароль Лір» і «Ноч на Каляды» ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка тэатра Мікалая Пінігіна, «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» рэжысёра Алены Ганум, «Паўлінка», якая ў снежні 2019-га атрымала статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці краіны».*

Па выніках 2019 года на 130% павялічыліся ўласныя даходы тэатра ў параўнанні з 2018 годам.

*«Мы адзначаем значны рост экспарту паслуг, аказаных тэатрам на працягу 2019 года, які склаў 515% і дасягнуў сумы 229.700 беларускіх рублёў,* – падлічваюць у тэатры. *– Таксама адбыўся значны рост атрыманых даходаў па дамовах рэкламнага абслугоўвання і спонсарскай дапамогі тэатру, якая павялічылася ў 10 разоў і склала 204.500 беларускіх рублёў. Тэатр адзначае і рост дзяржаўнай падтрымкі з боку Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь на дзейнасць галоўнага драматычнага тэатра краіны на 112%, што забяспечыла фінансаванне 52% агульнага бюджэту тэатра з дзяржаўных крыніц і 48% з пазабюджэтных крыніц».*

*У выніку гэта дазволіла павялічыць сярэдні заробак за мінулы год для работнікаў тэатра, які склаў 968,08 беларускага рубля з улікам выплаты адпаведных плацяжоў у бюджэт і фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Для артыстаў тэатра сярэдні заробак склаў 1089 беларускіх рублёў. Пры гэтым за снежань 2019 года сярэдні заробак склаў 1416 беларускіх рублёў».*

**Галіна РУТ.**

ЖЫВАЯ ГІСТОРЫЯ

## Ірына НІЖАНКОЎСКАЯ:

# «Едучы міма Лініі Сталіна, адварочваюся ў другі бок»

*Гадоў дзесяць таму трапіўся мне на вочы тэлерэпартаж з Радашковічаў пра згарэлую там старую хату, дзе жыла сям'я Браніслава Тарашкевіча. Не адзін я тады пабедаваў, бо шмат што, як паведаміла журналістка, пайшло дымам у неба. На шчасце, той рэпартаж, зроблены, відавочна, як сенсацыйны, аказаўся не зусім праўдзівым. Хата дарэшты не згарэла, яе ўдалося аднавіць. І па сённяшні дзень у ёй жыве Ірына Ніжанкоўская, чыя маці была жонкай самага маладога ў гісторыі айчыннай навукі акадэміка Тарашкевіча, родны дзед – стваральнікам Мінскага царкоўна-археалагічнага музея, а стрыечны дзед – першым рэдактарам «Нашай Нівы»… Улічыўшы ўсё гэта, я вырашыў напрасіцца ў госці. І вось мы сядзім з гаспадыняй за сталом, п'ём гарбату і перабіраем старыя здымкі, на якіх я многіх пазнаю.*



**– Ірына Уладзіславаўна, у мяне такое адчуванне, быццам я знаходжуся ў музеі – у куце стаіць пісьмовы стол Браніслава Тарашкевіча, на сцяне вісіць дыван з міжваеннай Вільні, на камодзе – фотаздымак, на якім ваша мама з Тарашкевічам, маладыя і прыгожыя. Колькі ж гадоў вашай хаце?**

– Гэтая хата сапраўды старасвецкая – ёй больш за 100 гадоў. Мая мама, Вера Ніжанкоўская, жыла ў Радашковічах з 1922 года, але часта бывала ў маёнтку Мігаўка, які належаў першаму рэдактару газеты «Наша Ніва» Аляксандру Уласаву. Ён даводзіўся маме родным дзядзькам. У 1920-я гады да яго часта прыязджалі беларусы з Вільні, бываў і Браніслаў Тарашкевіч – тагачасны дырэктар віленскай Беларускай гімназіі. Маме ён вельмі спадабаўся – дасціпны, разумны, спрытны. Мама з яго дапамогай пачала вывучаць лацінскую мову. Вывучала так, што ў 1923 годзе яны пажаніліся. Мама была вельмі прыгожай.

**– Гэта відно па фотаздымках. А яшчэ ж паходзіла з заможнай сям'і двараніна Андрэя Сніткі. Ці Тарашкевіча пасаг не надта цікавіў?**

– Пэўна ж, і пасаг для маладой сям'і быў нялішні, але я пра гэта нічога не ведаю. Вакол мамы вілося нямала кавалераў, а яна ўпадабала Тараса (так яго называла). Калі Тарашкевіча абралі ў польскі Сейм, маладыя паехалі ў Варшаву, дзе павянчаліся ў праваслаўнай царкве (мая бабка, матчына маці, была шчырай прыхільніцай праваслаўя). А Тарашкевіч быў католік! І таму, вярнуўшыся ў Вільню, яны пайшлі да ксяндза Адама Станкевіча і ўзялі шлюб у касцёле – для раўнавагі. Ксёндз Адам здзіўляўся, упершыню такую пару вянчаў.

**– Неўзабаве ў тым незвычайным шлюбе, змацаваным царквой і касцёлам, нарадзіўся сын Радаслаў. Ці клапатлівым бацькам быў Тарашкевіч?**

– Сына ён вельмі любіў. Але меў дзіўны метад выхавання: калі прыязджаў у Радашковічы з Варшавы ці Вільні, то спачатку не паказваў Славіку ніякіх гасцінцаў. Казаў: хачу ведаць, ці гэта ён мне радуецца, ці падарункам. А праз дзень-два ўжо даставаў свае гасцінцы. Тарашкевічаў сын з дзяцінства рос патрыётам. Калі яму споўнілася пяць гадоў, да бабкі нейкі паляк завітаў. Пабачыў Славіка, які насіўся па хаце, і пахваліў: «О, які хлопец-зух – бэндзе польскім генералам!» А малы спыніўся і сур'ёзна заявіў: «Не хачу быць польскім генералам, я – беларускі селянін». Шчаслівае сямейнае жыццё трывала нядоўга – у 1931 годзе Тарашкевіч чарговым разам трапіў у польскую турму, і праз два гады саветы абмянялі яго на Францішка Аляхновіча.

**– А абмен дзе адбываўся?**

– На мяжы ў Негарэлым. Мама паехала на той абмен, і Тарашкевіч толькі спытаўся, чаму Славіка не прывезла. Так ён больш і не пабачыў сына.

**– Дык а чаму не прывезла?**

– Бо збіралася неўзабаве следам за сваім Тарасам, узяўшы сына, пераязджаць у БССР! А бабка Лізавета, матчына маці, перажывала, што яе разлучаць з адзіным улюбёным унукам, і яна ў Радашковічах застанецца зусім адна.

**– Той абмен на Аляхновіча – ці не самы драматычны эпізод у лёсе Тарашкевіча. «Бронюсь, куды ты ідзеш?!» – нібыта спытаўся ў яго будучы аўтар кнігі «У кіпцюрох ГПУ», калі яны разміналіся на памежным пераходзе. Як вы лічыце, ці разумеў Тарашкевіч, што ідзе на смерць?**

– Мусіць, не разумеў. Тады ж многія верылі, што ў БССР росквіт нацыянальнай культуры. Максім Танк (ён, дарэчы, вучыўся ў Радашковіцкай беларускай гімназіі) пазней успамінаў, як беларуская моладзь збіралася на ўзвышшы і зайздросна глядзела па той бок мяжы, дзе жывуць шчаслівыя людзі. Усе чулі, што Мінск узяў курс на беларусізацыю. Праўду кажучы, у 1920-я гады так і было. Тарашкевіч думаў, што яму дадуць працаваць на ніве беларушчыны. І мама была гатова ехаць за ім. Але яму нават не далі жыць у Мінску, а вывезлі ў Маскву.

**– Дзе ў Тарашкевіча ў 1935 годзе з'явілася другая жонка. Шлюб, замацаваны перад алтаром двойчы, у жыцці аказаўся нетрывалым. А кім была разлучніца першай сям'і?**

– Масквічка Ніна Аляксандраўна Палянская. Зоська Верас (мама з ёю сябравала) пісала пазней, што другую жонку Тарашкевічу «знайшла партыя»… Але адкуль яна магла ведаць, што і як там адбылося, яе ж у Маскве ў той час не было. Пра другую жонку мама даведалася, здаецца, ад Рыгора Шырмы. Ну і яна, доўга не чакаючы, у 1936 годзе яшчэ раз выйшла замуж – за майго будучага бацьку.

**– І хто ж замяніў ёй разумніка Тараса?**

– Польскі настаўнік Уладзіслаў Ніжанкоўскі. Прыгожы этнічны паляк, які прыехаў на «ўсходнія крэсы» ўсталёўваць польскасць. Прыехаў з жонкай і… без памяці закахаўся ў маму! А мама ў той час яшчэ ездзіла на спатканні да Тарашкевіча, які сядзеў у польскай турме. Увогуле, мама казала, што з дзевяці пражытых з Тарасам гадоў яны пабылі разам хіба з паўгода. Ён то на Сейме ў Варшаве, то ў турме…

**– Выходзіць, што Тарашкевіча саветы выменялі толькі дзеля таго, каб знішчыць?**

– Фактычна так. У Маскве яго накіравалі выкладчыкам у Міжнародны аграрны інстытут – гэта ж занятак зусім не для яго. Канешне, за ім там сачылі. Зразумеўшы, што знаходзіцца пад каўпаком, Тарашкевіч спрабаваў выехаць на вайну ў Іспанію, але яго не выпусцілі. А неўзабаве арыштавалі, прывезлі ў Мінск, дзе моцна катавалі на допытах. Пра гэта расказваў паэт Станіслаў Шушкевіч, які сядзеў адначасна з Тарашкевічам, нават перастукваўся з ім праз сцяну. Усе Тарашкевічавы рукапісы, у тым ліку пераклад «Іліяды», пры арышце прапалі.



Распытаць пра мінулае прыехаў Уладзімір Содаль.



Вера Ніжанкоўская з мужам Б.Тарашкевічам і сынам Радаславам.

**– Добра, што хоць нешта ацалела. Відаць, за гэтым сталом Тарашкевіч пісаў сваю знакамітую «Граматыку беларускай мовы для школ»?**

– Магчыма, бо стол у Радашковічы быў перавезены з Вільні. Нейкі варыянт пісаўся за гэтым сталом дакладна, бо толькі пры жыцці Тарашкевіча граматыка тройчы перавыдавалася, а пазней яе і ў Мінску выдавалі, і ў Нью-Ёрку. Шкада, што стол абгарэў падчас пажару. Дзякуй пажарнікам, што хату ўратавалі.

**– А як пазней склаўся лёс вашых бацькоў і брата Радаслава?**

– Калі ў верасні 1939 года прыйшлі бальшавікі, іх, а таксама бабку выгналі з дому. Па мерках савецкай улады яны былі памешчыкамі і павінны былі ехаць на высылку. Але за іх заступіліся мясцовыя актывісты – відаць, яшчэ не ведалі, што Тарашкевіч ужо стаў «ворагам народа». Маме дазволілі забраць рэчы мужа – той самы стол, насценны дыван, парцалянавую вазу.

**– Куды забраць? Дзе былі змушаны жыць вашы сваякі?**

– Знялі паўхаты ў аднаго гаспадара. Іх чакала б Сібір, але бабка Лізавета зналася на зёлках, лячыла людзей, яе радашкоўцы паважалі, таму сабралі подпісы, каб нашу сям'ю не вывозілі. Бацька пры саветах, паколькі настаўнікаў не хапала, стаў працаваць у беларускай школе. А мовы ж беларускай не ведаў! Вучыў тэрмінова з дапамогай мамы. Неяк прыходзіць і пытаецца: «Што такое *ўдáва*?» Мама кажа: «Змяя». Бацька чытае: «Жыла ў крайняй хаце ўдáва». Мама расказвала і смяялася. Але мову бацька ўсё ж засвоіў.

**– Не паспелі прывыкнуць да савецкай улады, як прыйшла нямецкая. Дом вам вярнулі?**

– Не вярнулі, у вайну ў ім быў шпіталь. Немцы ў Радашковічах арганізавалі падсобную гаспадарку, бацька там быў загадчыкам, ваеннапалонныя там працавалі. Была адкрыта ў мястэчку і беларуская школа, куды з Вільні прыехалі выкладаць браты Луцкевічы – Лявон і Юрка (сыны прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча). Юрка нават дырэктарам быў. Восенню 1943 года бацька на машыне паехаў па гаспадарчых справах у Маладзечна. У кузаве былі яшчэ людзі, у тым ліку Антон Шантыр – сын Зоські Верас і Фабіяна Шантыра, які быў наркамам нацыянальных спраў у першым савецкім урадзе Беларусі. Вечарам вярталіся дахаты, і партызаны абстралялі машыну – думалі, што немцы едуць. Бацька загінуў. Калі яго хавалі, са мной, трохгадовай, сядзеў дзядзька Тонік...

**– Як усё пераплецена ў вашым лёсе – Тарашкевіч, Луцкевічы, Зоська Верас, Шантыр… А што сталася з вашым братам Радаславам?**

– Летам 1943 года ён пайшоў у партызаны, з якімі доўгі час быў звязаны. Заставацца ў Радашковічах яму было ўжо небяспечна. А як сысці ў лес, каб не пашкодзіць сямейнікам? І была зладжана цэлая інсцэніроўка: Радаслава партызаны нібыта забралі сілай, са скручанымі за спінай рукамі па вёсках вялі, каб людзі бачылі… Аднак нядоўга набыўся ён у тых партызанах – загінуў у 1944 годзе падчас блакады ў раёне Бягомля. Мама памерла ў 1998-м, так і не даведаўшыся, дзе ён пахаваны. Толькі гадоў пяць таму адзін краязнавец мне падказаў: у Бягомлі, у брацкай магіле. Я з'ездзіла, адведала.

**– Вы жывяце на вуліцы Браніслава Тарашкевіча, на доме – мемарыяльная дошка. Дзякуючы каму гэта ўсё з'явілася?**

– Найперш дзякуючы светлай памяці гісторыку Генадзю Каханоўскаму, які ўзначальваў краязнаўчы музей у Маладзечне. Ён сябраваў з сакратаром Маладзечанскага райкама КПБ Вячаславам Ляшковічам, былым настаўнікам. От разам яны ўсё і рабілі – Каханоўскі натхняў, а Ляшковіч арганізоўваў.

**– А як раней называлася ваша вуліца?**

– Пасля вайны была Пушкінскай.

**– Каб сёння ў Пушкіна «забралі» вуліцу, прыхільнікі «русского мира» крычалі б: «Гвалт і каравул!» А вы нейкі ўдзел у перайменаванні бралі? Можа, подпісы збіралі?**

– Не. Усё было вырашана наверсе – да 90-годдзя Тарашкевіча. Ніякіх подпісаў не збіралі.

**– Давайце разбяромся з вашымі астатнімі знакамітымі сваякамі. Ваша мама – дачка таго самага Андрэя Сніткі…**

– …Археолага і краязнаўца, які яшчэ ў 1908 годзе стварыў у Мінску царкоўна-археалагічны музей і напісаў гісторыю Слуцка (рукапіс зберагаецца ў Акадэміі навук). Сніткі – са старой беларускай шляхты, мелі родавы герб «Магіла». Маміна бабка мела прозвішча Пузырэўская і была пляменніцай братоў Кукальнікаў, адзін з якіх быў на высокай цэнзарскай пасадзе ў Расійскай імперыі, а другі – вядомым пісьменнікам. А мая бабка Лізавета, жонка Андрэя Сніткі, была з роду Уласавых. Пра яе роднага брата Аляксандра Уласава я ўжо згадвала. А іх маці паходзіла з роду Канчэўскіх, сярод якіх вядомыя Ігнат і Арсен Канчэўскія. Гэта стрыечныя браты маёй бабкі.

**– Ігнат – аўтар знакамітай працы «Адвечным шляхам: даследзіны беларускага светагляду» (Вільня, 1921), якая і сёння чытаецца з цікавасцю. А свайго стрыечнага дзеда Аляксандра Уласава вы не помніце?**

– Яго арыштавалі ў 1939-м, а я нарадзілася ў 1940-м. Самае цікавае, што і ён, спрактыкаваны палітык (абіраўся пры Польшчы ў Сейм), савецкую ўладу сустракаў з абдымкамі. Казаў: вось цяпер я папрацую на карысць Беларусі! Як толькі прыйшлі саветы, ён паехаў у Маладзечна і прапанаваў свае паслугі: маўляў, маю досвед працы ў рэдакцыі. Яго ветліва выслухалі, прапанавалі напісаць біяграфію. Ён і напісаў. А яму тую біяграфію прад'явілі як абвінаваўчы акт, арыштавалі і завезлі ў вілейскую турму. Аптыміст у жыцці, ён не падазраваў, што яго чакае. Жонка павезла перадачу, і ахоўнік перапытаў: «Для Уласава? Гэта такі вялікі і вусаты? З яго там уся камера рагоча». Дзеду далі пяць гадоў, але ён да месца прызначэння не даехаў. Памёр на перасылцы – не вытрымала сэрца. А сям'ю яго потым выслалі.

**– Ваша сям'я столькі пакут зазнала ў сталінскія часы. Калі вы па дарозе ў Мінск бачыце Лінію Сталіна, што адчуваеце?**

– Едучы міма, я ў другі бок галаву адварочваю, каб не бачыць гэтага чорта! Не павінна гэтага быць! Уся тая «лінія» на ілжы пабудавана. Там быў проста ўмацаваны раён, які ніхто не абараняў. Хлусня ў тым музеі на кожным кроку, а я люблю праўду.

**– Вось я размаўляю з вамі, і ў мяне складваецца ўражанне, што вы некалькі ўніверсітэцкіх факультэтаў скончылі. І мова ў вас дасканалая, і столькі фактуры гістарычнай памятаеце. А хто вы па прафесіі?**

– Сувязіст, у мяне толькі сярэдняя адукацыя. Але мяне заўсёды цікавіла гісторыя. Мама са мной гаварыла толькі па-беларуску. І на вуліцы ў пару майго дзяцінства гаварылі пераважна на роднай мове. Я ўсё жыццё працавала ў Мінску на міжгародняй тэлефоннай станцыі. А сапраўднай беларускай стала, дзякуючы Караткевічу. Неяк мы былі з мамай у гасцях у Зоські Верас, у яе лясной хатцы пад Вільнюсам, і Антон Шантыр даў мне пачытаць часопіс «Маладосць» з «Дзікім паляваннем караля Стаха». Дома я села чытаць – не адарвацца! А прачытаўшы «Каласы пад сярпом тваім», я зусім па-іншаму пачала глядзець на беларускую гісторыю. Караткевіч да гэтай пары мой улюбёны пісьменнік.

**– Бачу на вашым стале свежую «Народную Волю». Выпісваеце?**

– З першага нумара! І з 1995 года ні разу не здрадзіла любімай газеце. Я ж і ў БНФ была, на ўсіх з'ездах прысутнічала, на мітынгі хадзіла, у маршах свабоды ўдзельнічала. Сябравала з беларускай моладдзю, помню, як да нас Сяржук Вітушка са сваімі «талакоўцамі» прыязджаў, маме дровы секлі. А чым цяпер магу Бацькаўшчыне дапамагчы? Хоць матэрыяльна падтрымліваю беларускую прэсу.

**– Як вам удалося, нягледзячы на пражытыя гады, застацца такой аптымісткай?**

– На жаль, аптымізму вакол усё менш і менш. Палітычная атмасфера ў нашай краіне неяк прыгнятае. Але я стараюся не губляць бадзёрасці. Кветкі ў гародчыку расцвілі – мне ўжо радасць. Пару шампіньёнаў пры дарозе знайду – зноў радуюся. А яшчэ вандраваць люблю. У пазамінулым годзе запісалася ехаць на адкрыццё помніка Касцюшку, але ў бальніцу трапіла, уся спераживалася... Дарога мяне натхняе і бадзёрыць. Спадзяюся яшчэ паездзіць па Беларусі, палюбавацца нашымі цудоўнымі краявідамі.

**Міхась СКОБЛА.**

*Мінск–Радашковічы.*

ШАШКІ

## Прапануе юбіляр

**Генадзь Барысаў,** трэнер СДЮШАР №8 Віцебска, святкуе слаўны юбілей – 70-годдзе. За сваё прафесійнае жыццё ён назапасіў вялікі багаж цікавых шашачных пазіцый. Таксама спадар Генадзь выступае як складальнік. Сваімі знаходкамі спартыўны настаўнік падзяліўся з чытачамі «Народнай Волі». Віншуем юбіляра і знаёмім з дасланымі ім творамі.



№1 *(гл.дыяграму)* **Белыя**: a1, c1, d2, f2, g1, g5, h2, h6 (8).
**Чорныя**: b4, c3, c5, c7, e7, f6, h4 (7).
№2 **Белыя**: a5, c3, c5, d2, h4, h6 (6).
**Чорныя**: a7, b8, c7, e7, f8, h8, дамка c1 (7).
№3 **Белыя**: a5, c3, d4, f4, g3, g5, h4 (7).
**Чорныя**: a7, d6, d8, e7, g7, h6, h8 (7)
de5(c7), b6.

У наступных выпусках працягнем знаёмства са знаходкамі юбіляра.

## Ёсць праблемы!

Аўтар наступных пазіцый **Генадзь Андрэеў** добра вядомы нашым чытачам.

№4 **Белыя**: a5, a7, b4, c5, e1, f2, g5, h4, h6 (9).
**Чорныя**: b6, b8, c3, c7, d2, d4, e3, g3, h2 (9).
№5 **Белыя**: a5, b6, c1, c5, e1, g1, g5, h6 (8).
**Чорныя**: b8, c3, c7, d8, e3, f2, f4, g3, h2 (9).
№6 **Белыя**: b4, c3, d4, e1, e5, f4, h6 (7).
**Чорныя**: b6, c7, d2, f6, f8, g7, h4 (7).
№7 **Белыя**: b6, c5, c7, d6, f6, h4 (6).
**Чорныя**: a3, a5, b4, c3, d2, g5 (6).

Прапануем знайсці выйгрыш за белых самастойна.

Далей прапануем праблемы ўкраінскага шашачнага кампазітара **Валерыя Кручкова**. Выйгрыш за белых знайдзіце самастойна.

№8 **Белыя**: 13, 19, 27, 30, 32, 34, 40 (7).
**Чорныя**: 10, 17, 24, 38, 39, 43 (6).
№9 **Белыя**: 14, 15, 34, 35, 37, 40, 41, 44, 47 (9).
**Чорныя**: 19, 23, 24, 28, 29, 38,45 (7).

## У манастырскай цішы

З Асташкаўскага манастыра, вядомага як Ніла-Столбенскі скіт, свае дамачныя праблемы прапануе добра вядомы расійскі гросмайстар **Аляксандр Мікалаеў**. Кожная з іх мае свой арыгінальны эндшпіль.



№10 *(гл.дыяграму)* **Белыя**: 18, 19, 29, 33, 40, 44, 49, дамка 23 (8).
**Чорныя**: 11, 27, 30, 34, 38, 42, 45, дамка 48 (8)
39, 14, 40, 25(47), 38, 40-34, 6 х.
№11 **Белыя**: 19, 22, 23, 29, 37, 41, 42, дамкі 24, 48 (9).
**Чорныя**: 8, 9, 10, 15, 34, 36, 39, 40, 43, дамка 49 (10)
30, 32, 5, 35(30, 24), 2(32), 43, 16 х.
№12 **Белыя**: 22, 24, 27, 28, 31, 32, 36, дамкі 38 (8).
**Чорныя**: 7, 9, 10, 12, 13, 19, 34, дамка 4 (8)
23, 31, 19, 30(12), 13, 13(14), 22(18), 8, 3(19), 9(32), 4(38), 10(24), 15 х.
№13 **Белыя**: 12, 13, 14, 19, 39, 42, 43, 47, 50, дамкі 5, 25 (11).
**Чорныя**: 20, 26, 27, 28, 30, 31, 33, 34, дамкі 35, 44, 46 (11)
37, 38, 2, 37(42), 28(48), 36, 37, 27 х.

## Школа кампазіцыі

Прапануем разгледзець наступную пазіцыю **Валерыя Кручкова**.

№14 **Белыя**: 14, 16, 20, 22, 27, 32, 33, 38, 41 (9).
**Чорныя**: 6, 8, 13, 18, 21, 23, 25, 39, 44 (9).
9, 3, 35, 8, 11, 5 х.

Аўтар паведаміў, што першапачаткова шашкі 20 і 25 стаялі адпаведна на 10 і 5. Пры такой расстаноўцы пазіцыя мае прыгожае пабочнае рашэнне: 4, 4-10, 3, 4, 15 х. А зараз знімем шашку 6, а 16 заменім на чорную. Такім чынам выйгрыш адзіны, як у пабочным рашэнні.

## Супаставім рашэнні

«Народная Воля» ад 12 лістапада 2019 года.

**№4** – d8(e1), g3, g1, h8 х.
**№5** – cb6, f8, h2(a7), e5(ab2, d2), cb6, c3, c3 х.
**№6** – d8(c7), a1, f6, hg7, d8 х.
**№7** – d8(g1**a**), f8, e3, f2, g7, d2(f4), g5/h6(c3), c1(a7), c7х. **a**(f6), fe3 х.
**№8** – 31, 29, 33, 30, 24, 5 х.
**№9** – 4(34**A**), 31, 17, 50 х.**A**(29), 31, 35 х.
**№10** – 15-20(35**A**), 49, 38, 27, 40 х. **A**(30), 49, 32, 35(40), 13, 27, 27 х.
**№11** – 14(5), 6, 48, 10 х.
**№12** – 33(26**A**), 44, 37, 17, 44, 49 х. **A**(28), 37, 17, 44, 49 х.
**№13** – 32-28, 29, 40(18**AB**), 35, 49х. **A**(22), 35, 48 х. **B**(27),35, 49 х.
**№14** – 27, 38, 37-32(46), 27(42A), 26, 5 х. A(31),33, 5 х.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Клімавічы), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Рыгор Краўцоў** (Круглае), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, «Шашкі»*** або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 10.02.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 007 экз. Заказ № 540.